„Беларускі настаўнік” гэта адукацыйны дапаможнік перш-наперш настаўнікам беларускай мовы ў польскіх школах. Але не толькі. Хочам, каб наш часопіс дапамагаў усім зацікаўленым беларускай адукацыяй, напрыклад гісторыкам і географам, якія ўводзяць на ўроках элементы навучання гісторыі і геаграфіі Беларусі, але таксама Падляшша. Каб пашыраў сярод настаўнікаў веды пра Беларусь і азнаямляў з новымі метадамі навучання. Хочам, каб гэта была таксама настаўніцкая платформа абмену меркаваннямі, праблемамі, досведам.

Часопіс задуманы Аб'яднаннем у карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА. Яго ідэя ўзнікла ў час працы над „Стратэгіяй развіцця асветы беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы”.
У першым нумары надрукавалі мы поўны тэкст гэтага — на нашу думку — фундаментальнага дакумента, інфармацыі пра істотныя змены ў арганізацыі навучання беларускай мовы як мовы нацыянальнай меншасці, інфармацыі пра падручнікі і выдавецкія планы, сцэнарыі ўрокаў.

„Беларускі настаўнік” будзе выходзіць раз на паўгода. Запрашаем да супрацоўніцтва. Калі маеце цікавыя сцэнарыі ўрокаў або пазаўрочных заняткаў, урачыстых лінеек, школьных мерапрыемстваў, экскурсій, тэатральных спектакляў, калі ў Вас ёсць цікавыя гульні і дыдактычныя матэрыялы, прапануйце іх, з дапамогай нашага часопіса, іншым. Калі ў Вас узніклі пытанні, звязаныя з навучаннем беларускай мове, пішыце.

Матэрыялы і пытанні дасылайце на наш электронны адрас **ab_ba@poczta.onet.eu**. Часопіс „Беларускі настаўнік” даступны ў Вашых школах і на нашым сайце **www.ab-ba.com.pl**.

# Як нас бачаць вучні?



Яланта ГРЫГАРУК

Школа — месца нашай працы. Мы ў ёй праводзім намнога больш часу, чым думаюць многія, не звязаныя са школай людзі. А як бачаць нас вучні? На гэтае пытанне можна адказаць: па-рознаму. Для адных мы мілыя і сімпатычныя, для іншых зласлівыя і нецікавыя, яшчэ для іншых завельмі мяккія і наіўныя і, як не дзіўна, часам усе гэтыя погляды адносяцца да аднаго чалавека.

Настаўнік, бывае, нават не дадумваецца, што мілая і сімпатычная дзяўчынка, якая дакладна выконвае нашы заданні і ўважна глядзіць за парадкам у класе, думае пра нас і гаворыць такое... што лепш не ведаць. А здараецца, што хлопец, які часта не прыносіць сшыткаў, не хоча рабіць ніякай хатняй работы, на ўроку вядзе сябе так, што наша цярплівасць напружваецца як струны ў скрыпцы, лічыць нас добрым чалавекам і настаўнікам і ніколі, нават у прысутнасці аднакласнікаў, не скажа пра нас дрэннага слова. Гэта вядома крайнія сітуацыі, аднак і так бывае, што настаўнік час ад часу нават не ўяўляе сабе, як яго бачаць тыя, дзеля якіх прысвячае так многа свайго часу, не толькі ў школе, але і дадаткова яшчэ ў хаце.

Здараецца, што былая вельмі добрая вучаніца, якую мы ў школе хвалілі, ставілі шасцёркі, калі закончыць школу, то пераходзіць на другі бок вуліцы, каб з намі не прывітацца.

Мы, як настаўнікі, сеем зярняты, а што з іх вырасце, самі нават не ўяўляем. Каб выхоўваць іншых, трэба самому ведаць хто мы і чаго хочам. Маладыя людзі асабліва не любяць фальшыўцаў і таму шчырасць у настаўніка гэта аснова.

Дзеці і моладзь вельмі хутка бачаць, ці мы шчырыя ў адносінах да іх, ці гаворым тое, што сапраўды думаем. Калі адчуюць, што «праўда» ў нас не адна, тады трацім грунт дзеля далейшай паспяховай працы ў навучанні.

Думаю таксама, што каб быць добрым настаўнікам, трэба проста быць добрым чалавекам. Любіць сябе і іншых людзей, гэта аснова. Калі чалавек у сабе і ў іншых бачыць у першую чаргу тое, што дрэннае, то добрым чалавекам ён напэўна не з'яўляецца. Калі мы добрыя настаўнікі, то заўважаем тое, што вучань ведае сёння лепш чым учора, што патрапіць зрабіць лепш чым раней. Варта таксама падаць сігнал, што мы гэтае заўважылі, сказаць ці пахваліць вучня.

Здараецца таксама і так, што хвалім вучняў... аднаго ці двух у класе, а іншых не, бо ў нашай ацэнцы яны не заслужылі на тое, каб іх хваліць. Паводле нас гэта справядліва і нічога дрэннага ў гэтым няма. Аднак трэба падумаць, як гэта выглядае з боку вучня, які ніколі не чуе ад нас, што ён зрабіў нешта добра. Пасля нейкага часу сапраўды яму нічога не хочацца рабіць, бо навошта старацца, калі і так... хваліць будуць іншых. Справа тут нават не ў ацэнках, бо можна паставіць, напрыклад, чацвёрку, але сказаць, што вы заўважылі нешта вартаснае ці арыгінальнае, хаця колькасць памылак не дазваляе паставіць вышэйшую ацэнку. Калі няма магчымасці пахваліць за веды, то варта хаця б сказаць, што вучань вельмі добра выцірае дошку, ці заўсёды пакідае парадак вакол сябе. І варта гэтае рабіць, бо школа не толькі вучыць, але і выхоўвае.

**Яланта ГРЫГАРУК**

# Пазбавіцца комплексу непаўнацэннасці



Мікола ВАЎРАНЮК

**Аляксей КАРПЮК** быў дырэктарам Бельскага беларускага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча дваццаць гадоў — з 1971 да 1991 года. За гэты час школа перажыла рэвалюцыю. Пазбавілася пачуцця непаўнацэннасці, другараднасці, правінцыйнасці. Стала сімвалам высокага ўзроўню навучання, такой жа дысцыпліны, кузняй алімпійцаў і ўсеагульнага поспеху.



Аляксей КАРПЮК нарадзіўся ў 1936 годзе ў Зубаве. Закончыў Педагагічны ліцэй у Бельску (1956 ) і беларускую філалогію Варшаўскага ўніверсітэта (1961). Два гады працаваў у Пачатковай школе ў Шчытах-Дзенцялове, сем гадоў кіраваў Пачатковай школай у Орлі, год быў настаўнікам і дваццаць гадоў (1971-1991) дырэктарам Бельскага беларускага ліцэя.

— Ведаеце, як мяне называлі ў Бельску? Фанатыкам школы, — Аляксей Карпюк кладзе на стол тоўсты фаліянт. — Гэта найлепшая ў Польшчы школьная хроніка! Так яе ацаніў інспектар Найвышэйшай кантрольнай палаты. Па сутнасці, гэта копія.

**— Копія? Тут жа ўсё ад рукі напісана!**

— Я перапісаў з арыгінала, які ў ліцэі. І здымкі ўклеіў.

**— Навошта Вы гэта рабілі?**

— Бо гэта маё жыццё. Мая радасць і мой боль. Баліць мне, напрыклад, што хроніка так напраўду пачынаецца ў 1971 годзе. Мікола Гайдук, перадаючы мне пасаду дырэктара, сказаў, што раней такога летапісу не было. Мне падалося гэта дзіўным, аднак я не дапытваўся, а цяпер




Кіраўнік Пачатковай школы ў Орлі.

шкадую. Даўно наспела пара напісаць манаграфію нашай школы. Я нават рыхтаваўся да гэтага, збіраў матэрыялы. Але мне сённяшні дырэктар Андрэй Сцепанюк сказаў: спадар дырэктар (ён усё мяне так называе), ні Вы, ні я такой манаграфіі напісаць не можам. Чаму? Мы ўсё, што тут адбывалася і адбываецца ўспрымаем на вялікіх эмоцыях. А трэба, каб хтосьці глянуў рацыянальна.

**— Дык давайце так і глянем, падпіраючыся хронікай. У першы год Вашага кіравання школай экзамен на атэстат сталасці здало 56 абітурыентаў. Ажно 33 асобы закончылі вучобу ў ліцэі без матуры.**

— А калі б вы паглядзелі, колькі з іх паступіла ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, то склаўся б яшчэ больш сумны вобраз. Праўда, на той час нават выхаваўцы не ведалі, хто з іх выпускнікоў стаў студэнтам. Як быццам завяршылі чатырохгадовы этап і ўсё: мы сваё зрабілі, больш нас нічога не цікавіць. Мне гэта вельмі не падабалася. Ну, але гэта, так бы мовіць, быў рэзультат пэўнага працэсу. Калі я пагадзіўся стаць дырэктарам, паставіў сабе задачу: знайсці прычыну такога жахлівага становішча і зрабіць усё, каб нашы вучні паверылі ў свае сілы і не толькі паспяхова здавалі матуру, але і паступалі ў добрыя вышэйшыя школы.

**— А як Вы сталі дырэктарам белліцэя?**

— Я ім ставаць не збіраўся. У ліцэі я працаваў усяго год настаўнікам вайсковай падрыхтоўкі *(przysposobienia obronnego)*. Аднаго дня, пасля ўрокаў, дырэктар Гайдук кажа: правядзіце мяне дадому. Ідзем мы няспешнай хадой, Мікола Раманавіч гаворыць пра свае планы, што маўляў, збіраецца пакінуць школу, хоча прысвяціць сябе публіцыстыцы, гістарычным доследам. І раптам кажа: я падумаў, што мяне павінны замяніць вы. Ногі мне памякчэлі, у вачах пацямнела. Не таму, што я баяўся выклікаў. Я раней сем гадоў быў дырэктарам Пачатковай школы ў Орлі, якую таксама давялося падымаць на адпаведны ўзровень. Я ведаў, якая гэта цяжкая праца і якая адказнасць. Думаў, буду спакойна навучаць, а тут вось

Хлопцы з IV «а» класа ў 1981 годзе пасля паспяхова здадзенай матуры.





Матуральная камісія.

такое! У галаве калацілася думка — што рабіць, якія аргументы прывесці на тое, што я не хачу? Мікола Гайдук не раздзяляў маіх хваляванняў. Запрапанаваў мяне яшчэ і на старшыню экзаменацыйнай камісіі. Аргумент быў просты: якіх вучняў набярэш, з такімі будзеш працаваць.

**— Лагічна.**

— Так, толькі што з наборам у нас былі вялікія праблемы — кожны год было менш заявак, чым мы маглі прыняць вучняў. І толькі, калі тым маладым людзям не хапіла месцаў у іншых школах, тады прыносілі паперы да нас і мы іх прымалі з другога набору. Я ведаў, што з такой практыкай трэба скончыць. Ну, але паставіць дыягназ гэта адно, а як лячыць хваробу — зусім іншая справа. Я не пераставаў пра тое думаць, то быў тады мой асноўны галаўны боль. Памятаю, іду задуманы па Плянтах, а насупраць мой знаёмы дырэктар Пачатковай школы ў Маліnніках Сцяпан Бурыла і ўжо здалёк голасна вітаецца: *Dzień dobry panie dyrektorze*.
Я хіба нават не ўсміхнуўся: Сцяпан, добра табе жартаваць (гэта было яшчэ да афіцыйнага прызначэння мяне дырэктарам), а мне не да смеху. Што такое? Я давай яму расказваць пра свой клопат. І праўда, кажа Сцяпан Бурыла, у мяне шасцёра васьмікласнікаў збіраюцца ў агульнаадукацыйныя ліцэі, а толькі трое да цябе. Астатняя тройка, пры чым лепшых вучняў, да Касцюшкаў (суседні Ліцэй імя Тадэвуша Касцюшкі, які ў Бельску называюць

З жонкай Галінай на стадне́ўцы (1985).



польскім — М. В.). Вось бачыш, як мне не перажываць? А ці мы горшыя? Сцяпан задумаўся. А праз пару дзён кліча мяне пані Клава (шматгадовая сакратарка ў ліцэі — М. В.): тэлефон. У трубцы чую голас Бурылы: «Аляксей, зробленае, уся шасцёрка ідзе да цябе». Мне гэтая размова як быццам прыдала крылы. Я зразумеў, што нельга скласці рукі, а трэба дзейнічаць. Па-першае, выкарыстаць свае козыры. Я ж раней быў сем гадоў дырэктарам Пачатковай школы ў Орлі і быў знаёмы з дырэктарамі іншых школ у павеце. Ніхто з іх не адмовіўся сарганізаваць мне сустрэчу з вучнямі. Меў я «Сірэну»...

**— О, то Вы былі ў лепшым становішчы, чымсьці Яраслаў Кастыцэвіч, які...**

— ... аб'язджаў навакольныя школы на ровары. Так, мне было лягчэй. Тым не менш, трэба было над тым папрацаваць, падрыхтавацца да сустрэч. Дапамагала мне мая педагагічная адукацыя і практыка. Я гаварыў свабодна, без напругі і заўсёды ў лёгкай форме перадаваў важныя інфармацыі. Пераконваў маіх калег-настаўнікаў з падставовак, што ў нас ёсць шанц стварыць наш сапраўды моцны беларускі ліцэй. Мушу падкрэсліць, што ўсюды мяне зычліва прымалі, а аб'ехаў я дзясятак школ. І гэта прынесла рэзультат. Да нас паступіла 103% заявак у адносінах да месцаў у школе. Супер, але ж наперадзе ў іх экзамен. Як нам яго правільна правесці, каб не змарнаваць першую ў гісторыі школы надбаўку кандыдатаў? Паклікаў я да сябе дасведчанага настаўніка фізікі Рыгора Анаціка, які быў тады намеснікам дырэктара на грамадскіх асновах. Ён мне параіў, як афіцыйна выступіць на экзамене перад настаўнікамі. Пасля мяне Анацік папрасіў слова: «Чулі, колькі маем кандыдатаў? Упершыню! Будучы дырэктар ездзіў па школах, не браў камандзіровачных. Я прапаную, каб мы ўсіх, хто да нас падаў заяўку, прынялі. Каб мы ўрэшце пакончылі з ганьбай школы — другім наборам».

**— Гэтае прайшло?**

— Так. Якое было здзіўленне некаторых бацькоў, чыіх дзяцей адкінулі іншыя школы і яны з паперамі пад канец канікул сталі па прывычцы прыходзіць да нас. Памятаю такога аднаго «Напалеона», які зрабіў мне авантуру: *Jak to nie ma miejsc?! W tej szkole zawsze były!* Я раззлаваўся і адказаў яму мала дыпламатычна: *Niech pan zapamięta: tutaj już nigdy nie będzie miejsc w drugim naborze! Nie przyjmujemy odpadów!*

**— На той час сапраўды лічылі беларускі ліцэй слабой школай?**

— Дам такі прыклад. Калі я быў дырэктарам у Орлі, лепшых вучняў кіраваў у белліцэй. Адна інтэлігенцкая сям'я мне кажа, што іх сын пойдзе ў Электрычны тэхнікум, а калі туды яго не прымуць, у ліцэй заўсёды паспее. Гэта, на жаль, быў тыповы падыход. А яшчэ нашы людзі любілі тлумачыць жыццёвыя паразы сваіх дзяцей тым, што беларускі характар школы

Галіна Карпюк з вучнямі Пачатковай школы ў Орлі.



стаў бервяном, якое лягло ўпоперак шляху кар'еры. Сусед з маёй вёскі скардзіўся мне, што яго дачку не прынялі ва Універсітэт Мар'і Кюры-Складоўскай у Любліне, таму што яна закончыла менавіта беларускі ліцэй.

**— А тым часам беларускага ў школе было вельмі мала. За гэта Вас крытыкавалі хаця б у серыі артыкулаў, якія з'явіліся ў «Ніве» ў 1981 годзе.**

— З беларускага ліцэя цешыліся патрыёты, але масы ставіліся да гэтага абыякава. Таму ў нас і быў увесь час той недахоп кандыдатаў. А тыя, што мяне крытыкавалі, жылі ў Беластоку, дзе не зрабілі нічога ў плане навучання беларускай мовы. І то пры тым, што там жылі дзясяткі тысяч беларусаў. Тым часам пад прыцэл папалі мы ў Бельску, бо не адзін я, але і Васіль Ляшчынскі — дырэктар Падставовай школы № 3, і Ян Суліма — ранейшы дырэктар гэтай жа «тройкі», а ў той час старшыня нашага бацькоўскага камітэта. Лёгка кагосьці крытыкаваць, а сітуацыя была такая, што нават грамадскія дзеячы гаварылі: «Мы можам гуляць у беларускасць, але гэтым будучыні нашым дзецям не забяспечым». Дакладна такія словы пачуў я ад аднаго нашага актывіста, якога дзіця закончыла «тройку» і паступіла ў ліцэй Касцюшкі.

**— Вы ў адказ сваім крытыкам напісалі, што ў Вас «...была простая ідэя паставіць на ўзровень навучання, бо так выйшла, што асяроддзе з гэтага ліцэя зрабіла было прытулак для бяздомных» («Ніва» ад 22.11.1981 г.). І яшчэ дазволю адну цытату з гэтага Вашага адкрытага пісьма: «Можа гэта і наіўна, але Карпюку марыўся гонар беларуса, сучаснае купалаўскае *людзьмі звацца*: паказаць праз інтэлект вучняў белліцэя ўзровень навучання: добра здадзены ўступны экзамен, поспехі ў алімпіядах і г.д.». Вам доўга не давялося чакаць, каб адчуць гонар за сваіх вучняў.**

— У 1973 годзе ў нас з'явілася першая алімпійка на агульнапольскім узроўні: Эля Шурбак па рускай мове. А потым пайшло-пакацілася. У нас былі лаўрэаты і па геаграфіі, і па гісторыі, і па ведах пра Польшчу і сучасны свет, і па фізіцы, ня-

Аляксей Карпюк з вучнямі ліцэя на грамадскім пачыне ў Бельску.



мецкай мове. Памятаю сваё задавальненне, калі нас наведала важная дэлегацыя з Варшавы. Там былі чыноўнікі і дырэктары вядомых школ. Яны глядзелі на нас зверху, бо што ім якаясьці правінцыйная школа? Нягледзячы на гэта, мы прынялі іх як трэба — артыстычнай праграмай на беларускай мове. А потым я стаў расказваць пра дасягненні школы. І так ад слова да слова кажу: дазвольце прадставіць вам лаўрэатку трэцяга месца агульнапольскай алімпіяды па біялогіі: Малгажата Семянюк. Яны ажывіліся, давай мяне віншаваць. Я кажу: так сталася, што другое месца ў той алімпіядзе ўзяла таксама наша вучаніца Галіна Лапцеў. Ооо! — яны не крылі свайго здзіўлення. Гэта яшчэ не ўсё, — працягваю я, не міргнуўшы вокам, — першае месца належыць вось гэтай дзяўчыне: Яланце Суліме. Трэба было бачыць іх выраз твару! Ганарыстасць знікла вокамгненна. І як мне было не адчуваць гонару за сваіх вучняў і настаўнікаў? Бо трэба памятаць, што за поспехам кожнага вучня стаяў канкрэтны настаўнік. Так, я з поўнай адказнасцю магу і сёння сцвердзіць, што ў нас быў выдатны педагагічны калектыў.

**— Як Вам удалося яго стварыць?**

— Па-першае, праз адпаведны падбор. Калі ў мяне з’яўлялася магчымасць прыняць на працу новага настаўніка, дык я першынство над свежымі нават выдатнымі выпускнікамі вышэйшых школ аддаваў практыкам. Так у нас, напрыклад, з’явілася настаўніца біялогіі Ніна Суліма, якая вырасціла столькі алімпійцаў. Па-другое, мае настаўнікі ўвесь час былі вымушаны павышаць свае кваліфікацыі. Я ведаў, як за гэта ўзяцца, бо такі ж працэс прайшоў у Орлі. Так як і там, стаў я хадзіць да настаўнікаў на ўрокі — *na hospitacje* — і прымушаў чытаць свежую педагагічную літаратуру. Памятаю, якое было здзіўленне ў настаўніцкім пакоі, калі я спытаў пра мэты школьнай ацэнкі. Настаўніца хіміі адрэагавала: «Адкуль мне такое ведаць? Я пасля ліцэя пайшла на хімію. Ведаю ўсе хімічныя формулы, але не педагагічныя паняцці». Першай кніжкай, якую я загадаў прачытаць сваім настаўнікам была «Роля школьнай ацэнкі» *(Rola oceny szkolnej)* Стэфана Раціноўскага. Затым былі «Метады навучання» і іншыя. Неўзабаве ў педагагічнай бібліятэцы ста-



З арлянскімі спартсменамі. Аляксей Карпюк у мундзіры як porucznik rezerwy (лейтэнант запасу).

лі гаварыць, што так не чытаюць настаўнікі ніводнай іншай школы. Гэта прынесла вынікі. Пасля чатырох гадоў была ў нас візітацыя з Асветнай куратары ў Беластоку і ўсіх нашых настаўнікаў ацаніла вельмі добра, а дзесяць чалавек нават узнагародзіла. Толькі наша школа атрымала такое прызнанне асветных улад.

**— Добрыя настаўнікі прыцягвалі ў школу добрых вучняў. Кола замкнулася. Гатовы рэцэпт на поспех.**

— Каб жа гэта было так проста! Тады нашы поспехі нікога не здзіўлялі б. Дык мала што здзіўлялі, нават шакавалі! Нагадаю, што не было года, каб мы не мелі алімпійцаў. Аднойчы мой улюбёны візітатар, а раней настаўнік у педагагічным ліцэі Здзіслаў Хрусцік, сказаў мне: *Panie dyrektorze, wasze sukcesy są zjawiskiem niewytłumaczalnym*. Я толькі ўсміхнуўся і падумаў сабе: усё можна патлумачыць.

**— Дык патлумачце, калі ласка, як Вы з ліцэя зрабілі кузню алімпійцаў.**

— Калі пра ўсё расказаць, то наша размова павінна датычыць толькі гэтага. На нічога больш не будзе месца.

**— Тады скажыце толькі пра галоўнае. Ужо ведаем, што мусяць быць добрыя настаўнікі і вучні.**

— Трэба вучняў матываваць да працы. Ужо ў пачатку года прасіў я чацвёртакласнікаў, каб дэкларавалі, куды хочуць паступаць далей вучыцца. Я з кожным гаварыў індывідуальна. Пільнаваў, каб яны ішлі да пастаўленай перад сабой мэты. Я іх заахвочваў да ўдзелу ў прадметных алімпіядах спачатку нават не з думкаю пра перамогу, а каб пабачылі, што яны не горшыя за іншых. Бо часта нашы вучні проста не верылі ў свае сілы. Казалі, э-э-э, я не буду выбіраць прэстыжную школу, бо і так туды мяне не прымуць. Таму я перш-наперш стараўся падняць іх самаацэнку. І нават калі, дапусцім, наш вучань быў дзесьці пасярэдзіне ў нейкім конкурсе, я арганізаваў школьную лінейку, на якой хваліў яго. Запісваў гэта ў хроніцы школы, якую я, дарэчы, вёў ku pokrzepieniu serc.



Школьны хор на Першым з’ездзе выпускнікоў ліцэя, 1974 год.




Першы ўступны экзамен на беларускую філалогію Варшаўскага ўніверсітэта, 1956 год.

Таму не пра ўсё там прачытаеце. Непрыемныя моманты я проста замоўчваў.

**— Аднак, Вы пэўна вучняў не адно хвалілі, але яшчэ іх і пільнавалі. Нездарма пра Вашу школу казалі: манастыр.**

— Не толькі казалі, але і пісалі (смех). У 1984 годзе часопіс «Razem» змясціў артыкул пра ліцэй пад загалоўкам: Cztery lata w zakonie. Я цешыўся, што мы маем такую рэпутацыю. І нават стараўся яе падтрымліваць. Памятаю адно спатканне ў Пачатковай школе № 2, на якім выступалі дырэктары сярэдніх школ горада. Я слухаў, слухаў, як іншыя хваляць свае ўстановы, а калі прыйшла мая чарга, я сказаў: *Do mojej szkoły niech nie przychodzi nikt* — тут я вытрымаў паўзу — *kto nie lubi się uczyć, bo trafi do piekła. Niech przychodzą ludzie z ambicją.*

**— Такія словы не знеахвочвалі моладзь? Вы не баяліся, што зноў будзеце мець праблемы з наборам?**

— Зусім наадварот. Ужо пасля трох гадоў майго дырэктарства мы не толькі набралі чатыры паралельныя першыя класы, але мусілі адправіць трыццаць асоб. Гэта, канешне, таксама было непрыемнае, але што зробіш? Затое зусім прапала тая пагарда, з якою раней часта глядзелі на наш ліцэй. Яе месца заняла пашана. Нават у тых, хто нас не любіў. Маці нашае вучаніцы, якая працавала ў Гарадской управе, расказала мне такую гісторыю. Калі ў нас з'явіўся першы лаўрэат прадметнай алімпіяды, паведамілі пра гэта ў цэнтральным тэлебачанні. Але сказалі ўсяго, што вучань ліцэя з Бельска-Падляшскага. Дык адна працаўніца магістрата кажа: *Muszę zadzwonić do Kościuszków z gratulacjami.* Наша маці кажа: а можа гэта не Касцюшкі. *Jak to nie, też coś,* — бярэ трубку, набірае нумар і ўжо па першых словах яе твар становіцца шэрым, заканчвае размову з нескрыванай злосцю.

**— Маю ўражанне, што Вам такія сітуацыі падабаліся. Што Вы менавіта ў такія хвіліны адчувалі асаблівае задавальненне.**

— То праўда. Я з вялікай радасцю даказваў на кожным кроку, што беларуская моладзь на Беласточчыне не горшая за сваіх польскіх аднагодкаў. Што нашы вучні таленавітыя, працавітыя і поўнасцю заслугоўваюць поспехаў, якіх дабіваліся.

**— У Вашых словах бачу прагу першага пакалення беларускай інтэлігенцыі, якая пасля вайны хлынула з вёсак па навуку: выбіцца ў людзі.**

— Штосьці ў тым ёсць. Прыпамінаецца мне, што ў педагагічным ліцэі класы «б» — беларускія — былі заўсёды лепшыя. Нам відаць сапраўды хацелася вучыцца. А можа таксама адзывалася старая праўда, што двухмоўнай моладзі вучыцца лягчэй.



Шчаслівае дзяцінства.

**— Вы правялі школу ад Польскай Народнай Рэспублікі да III Рэчы Паспалітай. Па дарозе была дэкада Герка, калі «Польшча расла ў сілу», потым крызісныя 1980-я. Між імі ваеннае становішча...**

— Ваеннае становішча я якраз успамінаю вельмі добра. Мы былі далёка ад вялікіх палітычных падзей, у нас было спакойна. Навучанне ішло нармальнай каляінай. Мы нават — можа як адзіная школа — сарганізавалі стаднёўку. Мусілі толькі памяняць пару яе правядзення — гулялі днём, каб паспець да міліцыйнай гадзіны. Так што я вялікага ўплыву палітыкі на штодзённую працу нашай школы не бачу.



Мама Вера.

**— Вы ўсё кажаце «наша школа».**

— Гэта ўжо заўважыла Зінаіда Навіцкая, якая замяніла мяне на пасадзе дырэктара. Яна спытала мяне, чаму я заўсёды гавару ў множным ліку: мы, нашы вучні, наша школа? Ну, калі яно так, дык мусіць увайшло мне ў кроў і мяняць гэтага не буду. Аднойчы візітатар Пётр Літэрмус (пазней стаў беластоцкім куратарам) задаў мне падобнае пытанне: *Panie dyrektorze, jaki jest pana udział w sukcesach szkoły?*



З жонкай Галінай на пенсіі.

Я яму адказаў цытатай са «Шкляной кулі» Томаса Мана: *Na moim grobie napiszcie: tu leży człowiek, który otaczał się ludźmi mądrzejszymi od siebie*.

**— Давайце не будзем спяшацца з эпітафіямі. Дзякуй за размову.**

**Гутарыў Мікола ВАЎРАНЮК**

**P.S.**

Споўнілася мне 80 гадоў. Хочаш не хочаш, прыходзіцца аналізаваць і ацэньваць сваё жыццё. Калі б з яго выбраць нешта адно, безумоўна было б гэта дырэктарства ў нашым беларускім ліцэі — 20 гадоў або чацвёртая частка жыцця. Мяне на гэтай пасадзе не здавальняла тое, што гэта будзе абы-які беларускі ліцэй. Я хацеў, каб гэта быў вельмі добры ліцэй, адзін з лепшых не толькі ў ваяводстве, але і ў краіне. І так сталася. Нашы вучні займалі першыя месцы ў прадметных спаборніцтвах і нават прадстаўлялі Польшчу за мяжой: Барбара Такаюк, Маргарыта Трафімюк і Яраслаў Кірылюк. Добрае было супрацоўніцтва з настаўніцкім калектывам. Я ўжо 25 гадоў на пенсіі, а настаўнікі і выпускнікі ўсё называюць мяне «дырэктарам». Праўда, я ўвесь час жыву праблемамі школы, а мае наступнікі Зінаіда Навіцкая і Андрэй Сцепанюк выдатна працягвалі і працягваюць справу, памнажаюць поспехі ліцэя, што мяне вельмі цешыць, бо гэта ж «мой ліцэй».

Школу расславілі на ўсю краіну рэйтынгі алімпійцаў, складзеныя рэдакцыямі выданняў «Rzeczpospolita» і «Perspektywy». Каб трапіць у іхнія спісы, трэба прынамсі двух алімпійцаў на цэнтральным узроўні. Сёлета маем юбілей — 40 гадоў з часу, калі мы першы раз туды трапілі і ні разу з рэйтынгу не выпалі!

Пасля сёлетніх матураў тыднёвік «Nowiny» на першай старонцы ў анонсе артыкула напісаў «Матура 2016. Найлепшыя *Беларусы*». Менавіта так моладзь называе нашу школу: *Беларусы*. Ці ж гэта не прыгожая назва? І як ёю не ганарыцца? Асабліва, калі побач пералічваюцца поспехі і дасягненні.

**Аляксей КАРПЮК**

# Асноўныя змены афіцыйнага беларускага правапісу

Рэдакцыя „Беларускага настаўніка" папрасіла мяне напомніць асноўныя змены афіцыйнага беларускага правапісу, што былі прынятыя ў 2008 г., а ўвайшлі ў школьны ўжытак з 1 верасня 2010 г.

Не буду хаваць: успрымаю чарговую рэформу афіцыйнага правапісу неадназначна.

Афіцыйная моўная практыка абмежаваная, беларуская літаратурная мова жыве дзякуючы найперш не дзяржаве, а беларускаму грамадству.

Да таго ж поруч з афіцыйным функцыянуе правапіс традыцыйны — тарашкевіца, або класічны, звязаны з імёнамі Браніслава Тарашкевіча і братоў Луцкевічаў, Янкі Купалы, Якуба Коласа і ягонага дзядзькі Язэпа Лёсіка, Уладзіміра Дубоўкі... Гэты правапіс, лагічны, просты і навукова абгрунтаваны, у 1933 г. быў заменены штучнай ідэалагізаванай арфаграфіяй, скіраванай на русіфікацыю і саветызацыю беларускае мовы. Гэтую арфаграфію перыядычна падпраўляюць, бо надта ж яна адыходзіць ад жывога вымаўлення. Хаця пры суіснаванні двух правапісаў варта было б найперш аднавіць функцыянальнасць беларускае мовы, а тады працягнуць навукова-грамадскі дыялог, каб прыйсці да збліжэння і паяднання правапісных традыцыяў.

Новая версія афіцыйнага правапісу прынятая як закон, што для сусветнай практыкі беспрэцэдэнтна. Г. зн., кожная змена або выпраўленне памылак (а іх нямала) павінны адбывацца як папраўкі ў закон. Вельмі нязручна. Злыя языкі кажуць, што закон прымаўся не для стабілізацыі практыкі ўжывання беларускай мовы, а каб мець падставу для пераследу незалежных беларускіх перыёдыкаў і выдавецтваў.

Фармальна перад 2008 годам праект рэформы правапісу быў выстаўлены на грамадскае абмеркаванне, але папраўдзе прафесійнай дыскусіі не адбылося. Крытыка не была пачутая. Незалежныя спецыялісты знаходзяць шматлікія памылкі і непаслядоўныя напісанні ў новым правапісе (гл. працы З. Саўкі).

Чым прасцейшы правапіс, тым больш мова „канкурэнтаздольная" ў складаных сітуацыях. Наша беларуская мова акурат у такой сітуацыі знаходзіцца — па абодва бакі дзяржаўнай мяжы Беларусі і Польшчы. Шкада, што не было мэты пазбыцца выключэнняў з правілаў. Для вучня выключэнні — галаўны боль, яны рэальна ўскладняюць навучанне пісьменнай мове.

Беларуская мова ў школах Рэспублікі Польшчы выкладаецца адпаведна стандартам, прынятым у Рэспубліцы Беларусі. Усе настаўнікі, акрамя наймаладзейшых, вывучалі ва ўніверсітэтах беларускі правапіс і методыку яго выкладання паводле стандарту 1959 г. І старэйшыя школьнікі вымушаныя крыху перавучвацца.

То для сябе і для вучняў каротка прыпомнім найбольш істотныя з гледзішча ўплыву на тэкст правапісныя змены—2010. Ёсць сярод іх і станоўчыя (і шкада, што не даведзеныя да канца).



Вінцук ВЯЧОРКА

1 Сярод рысаў беларускага вымаўлення, якія паказваюцца на пісьме і былі падданыя новым правапісным зменам, найбольш часта сустракаецца пераход **У -> Ў** . Гэта характэрная беларуская асаблівасць, яе ведаюць усе беларускія дыялекты, але яе няма ані ў рускай, ані ў польскай мовах. Але ў ранейшай версіі афіцыйнага правапісу ўніверсальнае правіла (**У** пераходзіць у **Ў** пасля галосных, калі яно не пад націскам — так і ў тарашкевіцы) было абмежаванае мноствам выключэнняў.

Цяпер правіла пашырылася на частку словаў іншамоўнага паходжання. У межах слова: *фа**ў**на, са**ў**на, ра**ў**нд, кло**ў**н* — як і ва ўласнабеларускіх *пла**ў**ны, ра**ў**чук, со**ў**ка*. На стыку словаў: *Беларускі **ў**ніверсітэт, з'ява **ў**нікальная, гучнае „**ў**ра", польскія **ў**ланы, рашучы **ў**льтыматум, спявалі ва **ў**нісон*. Гэта добры крок у кірунку аўтаматызацыі пісьма.

Але засталіся малаабгрунтаваныя выключэнні. Напрыклад, словы *страус, соус, шлагбаум*, якія штучна аб'ядналі ў групу выключэнняў са словамі лацінскага паходжання на *-ум, -ус*, як *прэзідыум, кансіліум, радыус*.

Таксама нельга скарачаць **У -> Ў** у словах накшталт *шоу, фрау, ноу-хау*, дзе і вымавіць галосны гук **У** беларус не ўмее. Мы ж кажам і пішам *ішоў, браў, кахаў*. І для беларусаў Падляшша гэта запомніць складана, бо тут ведаюць польскую, а ў польскай словы англійскага паходжання show і падобныя вымаўляюцца з [ł] на канцы: [szoł].

Па-ранейшаму не скарачаецца **У** ў пачатку ўласных назваў (працей кажучы, вялікай літары **Ў** быць не можа): *легендарны Усяслаў, ва Украіне, каманда Узбекістана, помнікі Уроцлава*.

Трэба памятаць, што ані ў вымаўленні, ані на пісьме не можа скарачацца У, калі яно **пад націскам**: *Берасцейская **у**нія, пахавальная **у**рна, сапраўдны **у**нікум*.

2 Станоўчае рашэнне, якое збліжае дзве правапісныя традыцыі, — **пашырэнне якання** на некалькі частых лічэбнікаў: *дз**е́**вяць — дз**я**вя́ты, дз**е́**сяць — дз**я**ся́ты, с**е**м — с**я**мна́ццаць, с**я**мна́ццаты; в**о́**сем — вас**я**мна́ццаць, вас**я**мна́ццаты;* таксама *пяцьдз**я**ся́т* і *пяцідз**я**ся́ты*.

Між іншым, гэтая змена прывяла да праблемы з новымі беларускімі грашамі. Яны друкаваліся ў 2009 годзе, і на адпаведнай купюры напісана „пяцьдзесят рублёў". Цяпер ужо трэба — ПЯЦЬДЗ**Я**СЯТ.

**Але ўвага!** У розных даведніках, а нават у самім тэксце Закона (!) знойдзем два розныя напісанні лічэбніка 60: *шэсцьдз**я**сят* і *шэсцьдз**е**сят*. Гэта наступства разнабою ў вызначэнні месца націску. Калі націск на апошні склад — тады паводле правіла мела б пісацца **Я** ў папярэднім складзе. Калі націск на першы склад (а ён больш характэрны для літаратурнай традыцыі) — тады якання няма, пішам ШЭ'СЦЬДЗ**Е**СЯТ.

3 **Спрошчаны перанос**. Вялікая палёгка для школьнікаў і ўсіх, хто працуе з электроннымі тэкстамі. Абы ў пачатку ці ў канцы заставаўся склад (г. зн. хаця б адна зычная літара плюс хаця б адна галосная літара). Таму калі ўпёрся ў канец радка — перанось хоць гра-ма-дства, хоць гра-мад-ства, хоць гра-мадст-ва.

Засталіся некалькі абмежаванняў:

- Не пакідаем адну літару: *вя-сё-лы**я**, ра-ды**ё** Ра-цы**я**, **у**да-ча*. (Праўда, мне шкада, што дазволілі *ра-зрываць прыс-таўку* і корань.)
- Не разрываем гукі [дж] і [дз], хоць кожны з іх пішацца ў дзве літары: ***у**дж**а-лі-ла, у са-**дз**е*. Але калі **Д** у прыстаўцы, а **Ж** або **З** у корані, то вымаўляем іх асобна і пры пераносе можам дзяліць: *а**д-ж**ыў, па**д-з**емны*.
- Не адрываем нескладовыя **Й, Ў,** а таксама **Ь** і апостраф: *ма**й**-ка, сло**ў**-нік, пра**ў**-нук, у Бел**ь**-ску, аб**'**-ява*.
- Часткі складаных словаў пераносяцца асобна: *нач-лег, [праф]-[са-юз]*.

**4** Пашырэнне напісання **вялікай літары**. Ранейшы афіцыйны правапіс быў савецкі і адпаведна атэістычны. Цяпер з вялікай літары пішуцца назвы, звязаныя з боскімі постацямі ў веравызнаннях, назвы рэлігійных святаў: *Бог, Багародзіца, Маці Божая, Дух Святы, Святая Тройца, Вялікдзень, Вербніца* і г.д.

З іншага боку, загадана пісаць з вялікай літары словы *прэзідэнт, прэм'ер-міністр* і пад., „якія з'яўляюцца афіцыйнымі назвамі асобы па вышэйшых дзяржаўных і рэлігійных пасадах". Але дакладна не размежавалі афіцыйнага і неафіцыйнага кантэксту для такіх словаў. У выніку дзяржаўныя мас-медыя і выдавецтвы Беларусі сталі „на ўсякі выпадак" пісаць слова *Прэзідэнт* (калі гаворка пра Беларусь) з вялікай літары паўсюдна. Гэта занадта пампезна.

**5** Некалькі зменаў у напісанні выключна словаў іншамоўнага паходжання. Найбольш істотная змена, якая закранае тысячы такіх словаў, — пашырэнне акання на канцавыя спалучэнні -эр, -эль не пад націскам. Змена спрэчная. Часта пярэчыць рэальнаму вымаўленню. Такога моцнага акання няма ў многіх беларускіх дыялектах, напрыклад, у большасці беларускіх гаворак Падляшша. Словы, асабліва карацейшыя, робяцца непазнавальнымі. Тым не менш цяпер трэба пісаць *лідар, містар, кратар* (вулкана), *твітар* і нават *альма-матар* (alma mater, так называюць родную школу ці ўніверсітэт).

Наўрад ці хто-небудзь кажа [ка́тар] пра вялікую лодку (раней пісалі адпаведна вымаўленню *катэр*), бо *катар* — хвароба горла. Але цяпер *катар* — і лодка таксама, г. зн. узніклі новыя амонімы, што для мовы некарысна.

Але некаторыя аналагічныя словы ў жывой практыцы сапраўды зазналі аканне, асабліва калі там шыпячы гук або **Ц** перад -ар (*карцар*) ці калі слова часта ўжываецца (*камп'ютар*; на маю думку, можна пісаць і *кампутар* на лацінскі лад).

Укладальнікі новай рэдакцыі правапісу зразумелі, што татальнае аканне ў канцы запазычаных назваў прывядзе да блытаніны, а таму не пашырылі яго на назвы. І цяпер афіцыйна трэба пісаць *юпітар* праз **А**, калі гэта моцны ліхтар на сцэне, і праз *Юпітэр* праз **Э**, калі гэта рымскі бог.

**6** Літара **Ё**, якая ў пачатку слова/склада абазначае два гукі [й+о], набыла больш правоў. Нарэшце сталі пісаць адпаведна вымаўленню *Нью-Ёрк*. Таксама: *Ёган, Ёля, ёгурт, ёг* (у Індыі), *ёд* (у хіміі, медыцыне), літара *ёт*. Праўда, і тут рэформа непаслядоўная. Па-ранейшаму трэба пісаць *Іосіф, іон* (у хіміі).

Таксама *Іанічнае мора, Іаан*.

**7** Крыху пашырылася ўжыванне літары **Э** адпаведна вымаўленню: *экз**э**мпляр, тун**э**ль, с**э**рвіс* (абслугоўванне) — гэтыя словы раней пісаліся на расійскі лад праз **Е**; гэтаксама *с**э**нсар* і *канс**э**нсус* нарэшце сталі пісаць праз **Э**, бо яны ж аднакаранёвыя з даўно асвоеным народнаю моваю словам *с**э**нс*.

Але зноў жа змены непаслядоўныя. Словы *м**е**н**е**джм**е**нт, н**е**рвы, с**е**рвіз* (набор посуду) трэба пісаць праз **Е**. Першая і другая групы слоў не адрозніваюцца нічым значным, а значыць, школьнікі мусяць механічна запамінаць кожнае слова.

Іншыя ўласна правапісныя змены датычаць слоў, не такіх частых у практыцы беларускамоўных жыхароў Падляшша:

- у **складанаскарочаных** словах сталі пісаць абсечаныя часткі адпаведна беларускаму, а не расійскаму вымаўленню і напісанню (*прафкАм = прафсаюзны кАмітэт*);
- усе „геаграфічныя" **прыметнікі на *-скі*** пішуцца без мяккага знака перад суфіксам (*цяньшанскі* як *любанскі*);
- **аканне** пашырылася і на фінальныя літары **запазычаных слоў ніякага роду**: трыа (г. зн. trio); горш, што і ўласныя назвы мужчынскага і ніякага роду патрабуюць пісаць з -а на канцы (*Антарыа, Токіа, Антоніа*).

Я пастараўся падабраць бальшыню прыкладаў на словы, напісанне якіх змянілася. А вось прыклад задання на напісанне галосных з улікам правапісных зменаў — на розныя правілы.

## Устаўце прапушчаныя літары а, о, ы, э:

**Ч...гунка, тун...ль, экз...мпляр, д...лікатны, р...монт, інж...нер, тры..., бр...во, ар...ндатар, камп'ют...р, бр...зент, лод...р, поч...рк, ц...р...монія, орд...р, Лют...р, др...мота, бухгалт...р, світ...р, ш...рыф, ц...нтральны, п'ед...стал, р...стаўрацыя, баў...р, бл...ха, інт...рнэт, р...зюм..., выкр...сліць, с...рдэчны, твіт...р, с...нсарны.**

*(Чыгунка, тунэль, экзэмпляр, далікатны, рамонт, інжынер, трыа, брыво, арандатар, камп'ютар, брызент, лодар, почырк, цырымонія, ордар, Лютэр, дрымота, бухгалтар, світар, шэрыф, цэнтральны, п'едэстал, рэстаўрацыя, баўар, блыха, інтэрнэт, рэзюмэ, выкрасліць, сардэчны, твітэр, сэнсарны.)*

# Арганізацыйныя змены ў алімпіядзе і конкурсах

У працэсе навучання беларускай мове ў падляшскіх школах несумненна трэба падкрэсліць вельмі важнае значэнне арганізаванай ужо дваццаць трэці раз Алімпіяды па беларускай мове для ліцэістаў, як і прадметных конкурсаў для вучняў пачатковых школ і гімназій.

Школьны год 2016/2017 нясе за сабою пэўныя арганізацыйныя змены так у алімпіядзе, як і конкурсах.

Пасля многіх гадоў напружанай працы старшынёю Галоўнага камітэта Алімпіяды па беларускай мове ў Польшчы не будзе яе заснавальнік прафесар Аляксандр Баршчэўскі. Яго працу працягвае прафесар Мікалай Хаўстовіч. Надалей галоўным арганізатарам алімпіяды застаецца Кафедра беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта.

Арганізацыйныя змены кранаюць таксама прадметны конкурс на ранейшых этапах навучання. Распараджэннем ад 26 жніўня 2016 года Падляшскі куратар асветы арганізацыю ваяводскіх конкурсаў па беларускай мове для вучняў пачатковых школ і гімназій даручыла II Агульнаадукацыйнаму ліцэю з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім. У форме даручэння іншым, не куратарскім арганізатарам, праведзеныя будуць таксама конкурсы па інфарматыцы, французскай, іспанскай і рускай мовах, а таксама мастацкі.

Даручэнне не нясе за сабою ніякіх змен, калі гаворка ідзе аб умовах удзелу ў конкурсе, атрымання звання яго лаўрэата ці фіналіста. Змены засяроджваюцца галоўным чынам на справах арганізацыйных (напрыклад, раённы і ваяводскі этапы конкурсу будуць праводзіцца ў Бельскім белліцэі).



Андрэй СЦЕПАНЮК

Зразумела, кожная змена нясе нешта новае і не да канца вядомае, але нашай мэтай надалей з'яўляецца заахвочванне маладых людзей да шырокага карыстання беларускай мовай і ўзнагароджванне тых, якія робяць гэта найлепш.

Удзельнікі конкурсаў неўзабаве будуць вучнямі сярэдніх (звышгімназічных) школ. Хочам зрабіць усё, каб захацелі яны надалей пашыраць веданне беларускай жывой мовы, гісторыі і культуры. Каб проста беларуская мова была жывой мовай.

**Андрэй СЦЕПАНЮК**
дырэктар II Агульнаадукацыйнага
ліцэя з беларускай мовай
навучання імя Б. Тарашкевіча
ў Бельску-Падляшскім

# Аляксандр Валкавыцкі
## — як настаўнік стаў сімвалам камуністычнага ярма



Мікола ВАЎРАНЮК

Злачынца, здраднік, савецкі і фашысцкі калабарацыяніст, агент НКВД і гестапа — такія інфармацыі выкідае гугл, калі хочаш нечага даведацца пра Аляксандра Валкавыцкага. Так пішуць ультраправыя польскія інтэрнэт-парталы і шырэй невядомыя грамадскія арганізацыі, якія дамагаюцца змены назвы вуліцы Валкавыцкага і ягонага імя ў Пачатковай школе ў Нараўцы. І супастаўляюць яго асобу з іншай ураджэнкай ваколіц Нараўкі — Данутай Седзікуўнай „Інкай", санітаркай атрада польскага ўзброенага падполля Зыгмунта Шындзеляжа „Лупашкі", расстралянай у 18 гадоў камуністычнай бяспекай у Гданьску. Пішуць адназначна, што Аляксандр Валкавыцкі выдаў маці „Інкі" гестапа, дзе тая і загінула.

„Аляксандр Валкавыцкі нарадзіўся ў 1895 годзе ў вёсцы Заблотчыне, Гайнаўскага павета, у сям'і малазямельнага мужыка, — чытаем у афіцыйнай біяграфіі, якая вісіць у кабінеце беларускай мовы, але якой ужо няма на сайце школы. — Бацькі Аляксандра, нягледзячы на цяжкія эканамічныя і сацыяльныя ўмовы, стараліся па меры сваіх сціплых магчымасцей забяспечыць сыну адукацыю. У 1902 годзе пасылаюць 7-гадовага хлопца ў расійскую школу ў Нараўцы".

Да Першай сусветнай вайны ён не толькі закончыў пачатковую школу, але і гімназію ў Свіслачы. А пры немцах — васьмімесячныя беларускія настаўніцкія курсы ў той жа Свіслачы. Затым працаваў настаўнікам у беларускай школе ў вёсцы



Прыкалесь Ваўкавыскага павета (сёння ў Пружанскім раёне) да закрыцця школы польскімі ўладамі ў 1919 годзе.

— Гэта быў найстарэйшы брат майго бацькі, — гаворыць Яўген Валкавыцкі, пенсіянер, у мінулым дырэктар Пачатковай школы ў Нараўцы. — Я дзядзькі не памятаю, бо нарадзіўся ўжо пасля яго трагічнай смерці, але ў сям'і згадвалі яго як разумнага чалавека, з галавой. Бацькі не дарма паслалі яго ў школу. Можа гэта і мела ўплыў на далейшы лёс нашай сям'і, бо не толькі я стаў настаўнікам, але і мая старэйшая сястра, і нашы сямейнікі працавалі і працуюць у школах.

Хаця Яўген Валкавыцкі быў дырэктарам тае самае школы, што і яго дзядзька, да прысваення ёй імя не меў ніякага дачынення. Гэта сталася раней, яшчэ ў 1960-я гады. Аляксандр Валкавыцкі падыходзіў як найлепш — загінуў з рук рэакцыйнага падполля, дык можна было яго прылічыць

да ліку абаронцаў народнай улады. А да таго яшчэ перажыў дыскрымінацыю з боку ўлад даваеннай Польшчы. Хаця меў адпаведную адукацыю, як беларус не мог працаваць у школе. Спачатку дапамагаў бацькам на гаспадарцы, а затым працаваў у лесе. У школу вярнуўся толькі пры савецкай уладзе — з 1939 па 1941 год працуе дырэктарам Пачатковай школы ў Масеве. Калі немцы дазваляюць адчыніць беларускую школу ў Нараўцы ў 1943 годзе, яе кіраўніком становіцца Валкавыцкі. І працуе там пасля вызвалення, у першы бурны школьны год, да трагічнага дня 17 красавіка 1945 года.

— Аляксандр Валкавыцкі быў ліквідаваны атрадам Пятай Віленскай брыгады Арміі Краёвай у Нараўцы, — кажа д-р Пётр Лапінскі з Інстытута нацыянальнай памяці ў Беластоку. — Як прычыну камандзір брыгады маёр Зыгмунт Шындзеляж „Лупашка" ў сваім рапарце назваў тое, што Валкавыцкі быў „камуністычным арганізатарам". З дакументаў Дзяржаўнага архіва вынікае, што быў ён сакратаром гмінай ячэйкі Польскай рабочай партыі. Дзе-нідзе можна прачытаць, што партыйны білет атрымаў ён тры дні перад расстрэлам. Я аднак бачыў дакументы, якія паказваюць, што ўступіў ён у партыю 22 снежня 1944 года.

Ці членства ў партыі гэта дастатковая прычына расстрэлу? І ці гэта дастаткова, каб называць яго злачынцам? Жыхары Нараўкі сумняваюцца. Галасаванні ў Гміннай радзе, як і сярод настаўнікаў ды бацькоў вучняў паказалі, што большасць за тым, каб надалей заставаўся ён патронам вуліцы і школы.

— Калі пачалі нас бамбардаваць мэйламі з патрабаваннем змяніць імя школы, — кажа Марыя Леўша, дырэктар Комплексу школ у Нараўцы, — я паведаміла пра ўсё Куратарыю асветы ў Беластоку і звярнулася ў ІПН з просьбай адшукаць дакументы, якія б пацвярджалі нягодныя паводзіны Аляксандра Валкавыцкага. Адказ быў такі, што знойдзены толькі агульныя інфармацыі пра падзеі 17 красавіка 1945 года, перш-наперш паказанні жаўнераў у судзе. Нічога пра тое, што быў ён канфідэнтам якой-небудзь злачыннай улады, ці сам здзейсніў злачынства. „Адшуканне і дакладны аналіз інфармацыі патрабуюць падрабязных, доўгатэрміновых даследаў гэтай тэмы", — чытаем у пісьме ІПНу.

Абмен лістамі адбыўся ў 2013 годзе, калі з'явілася першая хваля паклёпніцкіх тэкстаў пра Аляксандра Валкавыцкага. З таго часу, аднак, ніхто такіх пошукаў у архіве ІПН не зрабіў. Няма ніякага збору дакументаў, прысвечаных Валкавыцка-

fot. TVP Białystok



му. Яго прозвішча паяўляецца толькі, сярод іншых, пры нагодзе апісання таго ж нападу падполля на Нараўку ў красавіку 1945 года, у выніку якога ён загінуў.

— Усе акалічнасці паказваюць на тое, што ў час вайны Аляксандр Валкавыцкі быў не толькі дырэктарам школы, але і актыўным сябрам калабарацыяністцкага Беларускага камітэта ў Нараўцы, — кажа д-р Пётр Лапінскі. — Захаваныя дакументы пацвярджаюць, што ў Беларускім камітэце былі даносчыкі, з-за якіх пацярпелі жыхары ваколіцы. У гэтым кантэксце, аднак, прозвішча Аляксандра Валкавыцкага не паяўляецца. Як і ў грыпсах Яўгеніі Седзіковай з гестапа. Яна называе іншага чалавека, які выдаў яе нямецкай паліцыі.

— Аляксандр Валкавыцкі хацеў быць настаўнікам — расказвае прафесар Алег Латышонак, старшыня Беларускага гістарычнага таварыства ў Польшчы. — Ствараў беларускае школьніцтва. У міжваенны перыяд не мог выконваць вывучанай прафесіі, бо не было беларускіх школ. Адчынілі іх толькі саветы ў 1939 годзе. Калі іх замянілі немцы, то праз нейкі час таксама дазволілі беларускія школы і Валкавыцкі працягваў навучанне дзяцей. Пасля ўцёкаў немцаў застаўся на месцы, хаця не мог не ведаць, як саветы абыходзяцца з супрацоўнікамі беларускіх камітэтаў. У 1944 годзе, калі стала вядома, што Нараўка будзе ў Польшчы, прапанаваў ён, каб мясцовая школа была польскай, а беларускія дзеці вывучалі ў ёй родную мову. Але ўжо гэта не спадабалася некаторым бацькам і атрымліваў ён пагрозы, што прыйдзецца яму расплаціцца за гэта. Так і сталася. Як гісторык магу сцвердзіць, што няма ніякіх доказаў злачыннай дзейнасці Аляксандра Валкавыцкага. Не ведаю, чаму яго ўзялі на прыцэл. Тым часам у іншых мясцовасцях, не толькі на Беласточчыне, але па ўсёй Польшчы ёсць цэлыя кварталы, названыя ў гонар людзей, якія сапраўды дзейнічалі на шкоду польскага народа.

Гэта неўзабаве зменіцца, бо 2 верасня ўступіў у сілу Закон аб дэкамунізацыі (аб забароне прапагандавання камунізму або іншага таталітарнага ладу ў назвах будынкаў, аб’ектаў або іншых устаноў грамадскага карыстання ад 01.04.2016 г.), які дае год органам мясцовага самакіравання на замену маральна састарэлай назвы на больш адпаведную сённяшняму дню.

У Падляшскім ваяводстве зноў жа як прыклад камуністычнага рэлікту на адным з першых месцаў прыводзіцца прозвішча Аляксандра Валкавыцкага, як патрона школы і вуліцы ў Нараўцы. Адтуль той папераджальны рух гмінных улад і дырэкцыі школы — дыскусіі і галасаванне ў Радзе гміны і ў школьным асяроддзі. Чарговы раз Нараўка выказалася ў абарону статус-кво. Рух цяпер за дзяржаўнай уладай, якая мае права загадаць змяніць імя школы і вуліцы. Якімі аргументамі падапрэцца, каб пераканаць мясцовых? Ды ці мусіць падпірацца якімі-небудзь аргументамі?

Да гэтай пары аргументы ў публічным дыспуце не ўжываліся. Для тых, хто абліваў і аблівае яго граззю на розных інтэрнэт-форумах ніякія доказы непатрэбныя. Крыжаносцы заўсёды перакананыя ў сваёй праваце. Горш, калі тыя інсінуацыі паўтараюць журналісты, а неаднаразова рабілі гэта і беластоцкія штодзёнкі, і выпуск навін „Аб’ектыў” на Польскім тэлебачанні Беласток. Іх таксама можна яшчэ неяк апраўдаць — малой гістарычнай граматнасцю. Нічога аднак не апраўдвае гісторыкаў, якія не то што не маўчаць, а падтакваюць натоўпу. І то пры тым, што адзіны дакумент, які абвінавачвае Валкавыцкага, гэта рапарт „Лупашкі” з прыгаворам „камуністычнаму арганізатару”. Гэтая фраза стала мультыплікавацца і абрастаць новымі словамі: здраднік, калабарацыяніст, злачынца і гэтак далей.

— Такія абвінавачванні пішуцца з адной мэтай, — кажа прафесар Алег Латышонак, — каб апаганіць чалавека. Абкідай кагосьці балотам, то заўсёды нешта прыклеіцца. Ні пра якія тут доказы і гаворкі быць не можа.

Адзіны даказаны факт, што Аляксандр Валкавыцкі быў беларускім настаўнікам. І на яго няшчасце, ягоны жыццёвы шлях перасекся са шляхам Пятай Віленскай брыгады АК пад камандаваннем Зыгмунта Шындзеляжа „Лупашкі". І на гэтым скончыўся, але толькі зямны, бо працягвае ён жыць як пэўны сімвал. У Народнай Польшчы, калі пасляваеннае ўзброенае падполле лічылася злачынным, тыя, каго яно забіла, узвялічваліся як героі. А калі цяпер антыкамуністычных партызан змясцілі ў пантэон герояў, дык аўтаматычна іх ахвяры сталі вінаватымі і справядліва пакаранымі.

Аляксандру Валкавыцкаму, здавалася, у жыцці шанцавала. Хаця не было лёгка, тым не менш перажыў дзве сусветныя войны, цара, санацыю, саветаў і немцаў. І на канец усё-такі шчасце яго пакінула. Згінуў не з тых рук, што трэба. І гэта на сённяшні дзень, здаецца, найбольшая яго віна.

**Мікола ВАЎРАНЮК**

# V КЛАС (час 2 х 45 хвілін)

# Тэма: РАСПАРАДАК ДНЯ. НЕСКЛАНЯЛЬНЫЯ НАЗОЎНІКІ



Аліна ВАЎРАНЮК

**МЭТЫ ЎРОКА:**

**Пасля ўрока вучні:**

- ведаюць словы і словазлучэнні, якія называюць штодзённыя заняткі і абавязкі вучняў (хадзіць у школу, рашаць урокі, вучыцца, старанна мыцца, умывацца, мыць зубы, твар, чытаць кніжкі, быць пунктуальным);
- ведаюць як скласці словазлучэнні звязаныя з правядзеннем свабоднага часу
- (глядзець тэлевізар, ехаць на ..., ісці ў кіно, глядзець кіно, займацца спортам, музыкай, быць балельшчыкам, балець за..., іграць на піяніна, гуляць у ..., футбол, шахматы);
- ведаюць нескланяльныя назоўнікі: кіно, радыё, паліто, журы, метро, бюро, піяніна;
- умеюць скласці сказы з вышэйзгаданымі неадменнымі назоўнікамі;
- ведаюць значэнне слоў: атэлье, дэпо, фае, пюрэ, легкавое таксі;
- адчуваюць патрэбу карыстання слоўнікамі.

**ФОРМЫ ПРАЦЫ:** індывідуальная, супольная, групавая.

**МЕТАДЫ ПРАЦЫ:** праблема, размова, практыкаванні.

**НАВУЧАЛЬНЫЯ ДАПАМОЖНІКІ:** папера, фламастары, карткі з практыкаваннямі, *Польска-беларускі слоўнік*, *Слоўнік беларускай мовы*, *Слоўнік іншамоўных слоў*, дыяграмы: часціны мовы, назоўнік (скланенне назоўніка, род назоўніка, лік назоўніка), падручнік, с. 104.

1. **Уступная размова пра вучнёўскія абавязкі і спосабы правядзення свабоднага часу. Настаўнік звяртаецца да прачытанага раней тэксту *Панядзелак — дзень цяжкі*.**

- Чым абяцаў займацца кожны дзень Міхась Чыжык?
- Чаму ён гэтага не рабіў?
- Што вы кожны дзень павінны рабіць?
- Назавіце, калі ласка, свае штодзённыя абавязкі.
- Як праводзіце свабодны час?
- Чым любіце займацца?
- Якія ў вас зацікаўленні?

2. **Вучні ў групах рыхтуюць спіс сваіх абавязкаў і спосабаў правядзення свабоднага часу.**

Настаўнік дзеліць вучняў на групы. Адны называюць свае штодзённыя абавязкі, другія вызначаюць спосабы правядзення свабоднага часу.

Вучні карыстаюцца *Польска-беларускім слоўнікам*.

**3. Прэзентацыя і размова пра падрыхтаваныя вучнямі працы.**

Звяртаем увагу на тое, ці вучні правільна выкарысталі словазлучэнні. Гутарка пра выкарыстанне часцін мовы (назоўнік, дзеяслоў і яго безасабовая форма, прыметнік, прыслоўе).

**4. Гутарка на тэму: «Што нам дапамагае ў штодзённых абавязках?».**

Планаванне свабоднага часу.

**5. Запіс у сшытках тэмы ўрока.**

Вучні ўклейваюць у сшыткі карткі і дапаўняюць самастойна сказы.

*У кожнага чалавека свае ............... . (абавязкі)* (назоўнік)

*Трэба іх .............. ведаць. (добра)* (прыслоўе)

*Трэба ................ свой ............. час. (шанаваць, свабодны)* (інфінітыў, прыметнік)

Вызначаныя вучні чытаюць поўныя сказы і вызначаюць, якімі часцінамі мовы з'яўляюцца выкарыстаныя ў сказах словы.

**6. Настаўнік знаёміць вучняў з паняццем нескланяльнага назоўніка.**

Вучні называюць граматычныя катэгорыі назоўніка з дапамогай дыяграм.

Вучні чытаюць запісаныя на картках сказы з нескланяльнымі назоўнікамі.

*Міхась прыгожа іграў на* ***піяніна.***

*Сябры сустрэліся каля* ***кіно.***

*Дзеці запісалі свае песні на* ***радыё.***

*Тата Юлі — архітэктар, ён працуе ў* ***бюро.***

*Мы былі ў Варшаве і ездзілі на* ***метро.***

*Вучнёўскія працы ацэніць міжнароднае* ***журы.***

*Учора мама была ў новым* ***паліто.***

Размова пра нескланяльныя назоўнікі, выкарыстаныя ў сказах. Настаўнік інфармуе, што гэта запазычаныя, іншамоўныя словы, якія не скланяюцца.

Вучні чытаюць табліцу са 104 старонкі падручніка. З дапамогаю *Слоўніка беларускай мовы* і *Слоўніка іншамоўных слоў* тлумачаць незразумелыя словы.

**7. Адказ на пытанне: «Што мы павінны памятаць пасля сённяшніх урокаў?».**

**8. Дамашняя праца — практыкаванне 3, с. 104. (Настаўнік тлумачыць незразумелыя словы).**

## V КЛАС (час 2 х 45 хвілін)

# Тэма: ПЛЯМЁНЫ, ЯКІЯ ДАЛІ ПАЧАТАК БЕЛАРУСКАМУ НАРОДУ



Аліна ВАЎРАНЮК

**МЭТЫ ЎРОКА:**

**Пасля ўрока вучні:**

- ведаюць назвы трох плямёнаў, якія далі пачатак беларускаму народу,
- ведаюць, на якой цяперашняй тэрыторыі Беларусі жылі плямёны дрыгавічоў, крывічоў, радзімічаў,
- умеюць назваць характэрныя рысы вышэйзгаданых плямёнаў,
- умеюць скласці кароткую нататку на аснове тэксту.

**ФОРМЫ ПРАЦЫ:** індывідуальная, супольная, групавая.

**МЕТАДЫ ПРАЦЫ:** паказ, размова, практыкаванні.

**НАВУЧАЛЬНЫЯ ДАПАМОЖНІКІ:** падручнік, камп'ютар, (праектар, мультымедыйная дошка), інтэрнэт
<http://belsat.eu/be/nasze_programy/episode/m,1209,pliamiony.html>

1. **Настаўнік знаёміць вучняў з тэмай урока.**

2. **Азнаямленне вучняў з тэкстам з падручніка пра плямёны крывічоў, радзімічаў, дрыгавічоў.**

Настаўнік уголас чытае тэкст пра тры плямёны або просіць вучняў прачытаць тэкст.

3. **Размова пра змест тэксту.**

4. **Паказ фільма з цыкла «Гісторыя пад знакам Пагоні».**

Фільм дапаможа вучням зразумець і запамятаць інфармацыі пра плямёны. Гэта якасны матэрыял. Фільм характэрны простай мовай, у ім выкарыстоўваюцца мапы і ілюстрацыі, у дыктара дасканалае вымаўленне.

5. **Размова пра змест фільма.**

6. **Рэдагаванне нататкі пра тры плямёны.**

Настаўнік дзеліць вучняў на тры групы. Кожная група рэдагуе нататку пра адно з плямёнаў адказваючы на пытанні:

- Якую тэрыторыю займала кожнае з плямёнаў?
- Дзе яны жылі?
- Чым займаліся нашы продкі?

Калі ў Вас ёсць магчымасць карыстацца камп'ютарамі, прапануйце вучням пісаць на іх. Пасля таго, як кожная група прачытае сваю нататку, прапануйце скласці адзін тэкст, надрукуйце яго і раздайце ўсім вучням.

7. **Завяршэнне ўрока. Адказ на пытанні: «Якія плямёны далі пачатак беларускаму народу? Што ведаеце пра крывічоў, радзімічаў, дрыгавічоў?».**

## І КЛАС ЛІЦЭЯ

**Сцэнарыі ўрокаў**

# Тэма: БЕЛАРУСКІЯ НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ СІМВАЛЫ



Ян КАРЧЭЎСКІ

### МЭТЫ ЎРОКА

**Вучань:**

- ведае кантэксты слова «пагоня»,
- акрэслівае сімволіку колераў на беларускім сцягу і гербе,
- адрознівае гістарычныя нацыянальныя сімвалы Беларусі ад сучасных,
- разбіраецца ў іншых тэкстах культуры,
- выказвае пашану да нацыянальнай сімволікі.

### МЕТАДЫ І ФОРМЫ ПРАЦЫ

- гутарка з элементамі дыскусіі
- праца з тэкстам

### НАВУЧАЛЬНЫЯ ДАПАМОЖНІКІ

- запісы песень «Пагоня», «Магутны Божа»
- відэазапіс сучаснага гімна РБ
- падручнік па літаратуры для І класа агульнаадукацыйнага ліцэя
- выявы афіцыйных дзяржаўных сімвалаў РБ

### ХОД УРОКА

**I. Арганізацыйны момант.**

**II. Запіс плана ходу ўрока:**

1. Паняцці слова «пагоня».
2. Сімволіка колераў.
3. Афіцыйныя сімвалы Рэспублікі Беларусь.
4. Гімн Беларусі.

**III. Рэалізацыя тэмы.**

**Ад 1:**

- Чытанне вучнямі ўголас фрагмента тэксту пз. «Герб Вялікага Княства Літоўскага», абмеркаванне ды запіс у сшытках значэння тэрміна «пагоня» (ваенная павіннасць па абароне дзяржавы, «апалчэнне»).
- Абмеркаванне значэння «пагоні» ў песні «Пагоня» на словы Максіма Багдановіча (пагоня — сімвал магутнасці дзяржавы, сімвал кансалідацыі народа, гэта пагоня за тымі, якія адракаюцца ад свайго народа і роднага слова).

**Ад 2:**

- Намаляванне на дошцы і ў сшытках бел-чырвона-белага сцяга і абазначэнне сімволікі колераў.

| |
|---|
| белы |
| чырвоны |
| белы |

**Белы** — мір, чысціня, вера

**Чырвоны** — мужнасць, агонь, жыццё

- Супольнае прачытанне і абмеркаванне тэксту «Беларускія гістарычныя нацыянальныя сімвалы»

**Ад 3:**

- Гутарка настаўніка з элементамі дыскусіі наконт афіцыйнага герба і сцяга. Першае, на што зверне ўвагу кожны — гэта зялёны контур тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, як яна адлюстравана на геаграфічнай карце. Контур краіны знаходзіцца ў сярэдзіне герба, утворанага вянком з каласоў, пераплеценых з аднаго боку ружовымі кветкамі канюшыны, з другога — блакітнымі кветкамі ільну. Канюшына — гэта сімвал сувязі са стваральным светам жывёл: канём, каровай, авечкай, для якіх яна — лепшы корм. Лён — гэта бавоўна Поўначы, цудоўны матэрыял для адзення. Здаўна з ільну выраблялiся прыгожыя і трывалыя тканіны. Лён — сімвал стваральнай працы, знак дабра і дастатку. Ніжэй контуру граніцы Рэспублікі Беларусь змешчаны зямны шар з узыходзячым над ім сонцам і залатымі промнямі. Зямны шар — гэта знак таго, што Рэспубліка Беларусь успрымае ўсе народы Зямлі як раўнапраўных сяброў і партнёраў.
- Сцяг мае тры колеры: чырвоны, зялёны і белы. Чырвоны колер са старажытных часоў служыць знакам Сонца, сімвалізуе кроўныя сувязі, братэрства, гэта знак шчаслівага жыцця. Зялёны колер — колер дабра, надзеі. Белы колер — гэта колер маральнай чысціні і мудрасці.

**Ад 4:**

- Гутарка настаўніка з увагай на гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» (як гімн БНР і беларусаў у вольным свеце), духоўны гімн Беларусі «Магутны Божа» на словы Наталлі Арсенневай (выслухванне песні з праекта «Я нарадзіўся тут»).
- Агляд відэазапісу афіцыйнага гімна РБ ды супольнае абмеркаванне яго слоў.

## IV. Рэфлексія

Працягніце фразу:

1. Сёння я даведаўся / даведалася ...
2. Я зразумеў / зразумела ...
3. Я хацеў бы / хацела б ...
4. Мне спадабалася / не спадабалася ...

# Тэма: СТАРОНКІ З ЖЫЦЦЯ І ДЗЕЙНАСЦІ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ



Ян КАРЧЭЎСКІ

## МЭТЫ ЎРОКА

**Вучань пасля ўрока:**

- акрэслівае факты з жыцця і дзейнасці Францыска Скарыны
- выказваецца вусна і пісьмова на аснове тэксту і гутаркі настаўніка
- усведамляе ролю кнігі ў жыцці чалавека
- ганарыцца выдатнымі постацямі беларускага народа

## МЕТАДЫ І ФОРМЫ ПРАЦЫ

- гутарка
- праца з тэкстам
- праца ў малых групах

## НАВУЧАЛЬНЫЯ ДАПАМОЖНІКІ

- падручнік па літаратуры для І класа агульнаадукацыйнага ліцэя
- мультымедыйная прэзентацыя пра Францыска Скарыну
- карткі з пытаннямі

## ХОД УРОКА

**I. Арганізацыйны момант.**

**II. Праверка хатняй працы.**

- як праходзіла развіццё Беларусі на працягу часу ад XIV да XVI ст.?
- як развівалася ў гэты час беларуская мова?
- якая была роля беларускай мовы ў ВКЛ?
- назавіце стваральнікаў эпохі адраджэння на Беларусі.

**III. Уводзіны ў новую тэму і яе рэалізацыя.**

- гутарка настаўніка з выкарыстаннем мультымедыйнай прэзентацыі:

Выдатным дзеячам беларускай культуры XVI ст., вялікім гуманістам-асветнікам быў Францыск Скарына (каля 1490—1551). Ён нарадзіўся ў сям'і купца ў Полацку — горадзе, які ў тыя часы быў буйным гандлёвым і культурным цэнтрам Вялікага Княства Літоўскага. Бацькі рыхтавалі Францыска да купецкай дзейнасці, але ён выбраў іншую дарогу. Атрымаўшы дома добрую па тых часах адукацыю, Францішак накіроўваецца ў Кракаў, каб паступіць на вучобу ва ўніверсітэт. Там ён паспяхова вытрымлівае экзамены і на працягу двух гадоў займаецца на факультэце «свабодных мастацтваў». Заканчвае вучобу ў 1506 г., атрымаўшы вучонае званне бакалаўра.

Поспех не заспакоіў Скарыну. Ён працягвае вучыцца далей, магчыма там жа, у Кракаве. Яго ўвагу, акрамя так званых свабодных, «вызваленых» навук (граматыка, логіка, рыторыка, арыфметыка, геаметрыя, астраномія і музыка), прыцягвае медыцына. Скарына глыбока асвойвае іх і здабывае вучоную ступень «доктара свабодных навук». Аднак і гэта не задавальняе настойлівага і дапытлівага маладога чалавека. Ён адпраўляецца ў Італію — краіну высокаразвітой культуры эпохі Адраджэння і ў 1512 г. бліскуча здае экзамены на званне доктара «лекарскіх» (медыцынскіх) навук у Падуанскім універсітэце. З 1512 па 1517 г. звесткі аб жыцці Скарыны губляюцца, але можна думаць, што ў гэты час ён вядзе напружаную працу па падрыхтоўцы да выдання на беларускай мове «Бібліі». У 1517 г. Скарына — у чэшскай Празе. Там ён адну за другой выдае ў перакладзе з чэшскай на беларускую мову кнігі «Бібліі» са сваімі прадмовамі і пасляслоўямі. За два гады ім былі надрукаваны 23 кнігі. Каля 1520 г. Скарына пераязджае ў Вільню — сталіцу Вялікага Княства Літоўскага, дзе адкрывае друкарню, у якой выдае дзве кнігі: «Малую падарожную кніжку» (1522) і «Апостал» (1525). У пачатку 1530-х гг. пагоршылася матэрыяльнае становішча беларускага першадрукара. Пачаліся сямейныя клопаты. За даўгі брата прыйшлося пабываць у арышце ў Познані. У час пажару Вільні згарэла друкарня Скарыны. Не было магчымасці яе адбудаваць. Пад канец жыцця Скарына зноў перасяляецца ў Прагу. Там ён і памёр у 1551 г.

Францыск Скарына — фігура выдатная не толькі ў гісторыі беларускай літаратуры, але і ў культуры ўсходнеславянскіх народаў. Таленавіты вучоны, пісьменнік, публіцыст, перакладчык, ён быў адным з самых адукаваных людзей свайго часу, чалавекам рознабаковых ведаў. Ён цікавіўся гісторыяй, філасофіяй, прыродазнаўствам, матэматыкай, медыцынай, філалогіяй, дасканала ведаў лацінскую, старажытнагрэчаскую, нямецкую, польскую, чэшскую, старaславянскую мовы. Як і многія іншыя дзеячы культуры эпохі Адраджэння, Скарына быў шматгранназ асобаю, чалавекам невычэрпнай энергіі і ініцыятывы.

- праца вучняў у малых групах; на аснове гутаркі настаўніка і тэксту з падручніка «Францыск Скарына» трэба дакончыць фразы, якія знаходзяцца на картачках

» Францыск Скарына нарадзіўся ў ..........

» Вышэйшую адукацыю ён атрымаў у ..........

» У 1517 годзе Ф. Скарына ..........

» На тэрыторыі ВКЛ з 1520 па 1525 год Скарына надрукаваў ..........

» Усяго ім выдадзена .......... кнігі Бібліі.

» Прыкметы Скарынавых кніг, гэта: ..........

» Свае кнігі ён адрасаваў ..........

» Апошнія гады жыцця Ф. Скарына правёў у ..........

## IV. Падсумаванне тэмы.

- прэзентацыя вучнямі вырашэння класнага задання

## V. Хатняя праца

- пісьмовы адказ на пытанне: чаму мы называем Францыска Скарыну выдатным асветнікам і гуманістам?

# Тэма: ФРАЗЕАЛАГІЗМЫ



Іна ВЕНСКО

**МЭТЫ ЎРОКА:**

**Вучань**

- ведае, што такое фразеалагізмы і чым яны адрозніваюцца ад свабодных словазлучэнняў;
- умее карыстацца фразеалагічным слоўнікам;
- умее знаходзіць устойлівыя адзінкі ў сказах і вызначаць іх значэнне;
- умее выкарыстоўваць фразеалагізмы ў сваім маўленні;
- развівае навыкі вуснай і пісьмовай мовы;
- пашырае свой лексічны запас;
- адчувае любоў і цікавасць да моўнага багацця свайго народа.

**ТЫП УРОКА:** вывучэнне новага матэрыялу

**ФОРМА ПРАЦЫ:** калектыўная, індывідуальная

**НАВУЧАЛЬНЫЯ ДАПАМОЖНІКІ:** падручнік „Практычная беларуская граматыка", карткі з правіламі, карткі з фразеалагізмамі для самаацэнкі

**ЭПІГРАФ:** „Ідыяматыка — гэта святая святых нацыянальнай мовы. Іменна ў ёй праяўляецца дух і своеасаблівасць кожнай нацыі. Яна непаўторна". І. Я. Лепешаў

**ХОД УРОКА:**

**I. Арганізацыйны момант**

Стварэнне зычлівай працоўнай атмасферы.

**II. Праверка дамашняга задання**

**III. Вывучэнне новага матэрыялу**

**Настаўнік:** Своеасаблівымі самародкамі, самацветамі беларускай мовы, перламі народнай моватворчасці з'яўляюцца фразеалагізмы.

**ФАРМУЛІРОЎКА ТЭМЫ І ЗАДАЧ УРОКА**

**Настаўнік:** Фразеалагізм — гэта гатовае ўстойлівае спалучэнне не менш як двух слоў з непадзельным цэласным значэннем. Знешне, паводле сваёй структуры, фразеалагізм хоць і падобны да словазлучэння, але адрозніваецца тым, што ў ім словы страчваюць самастойнае лексічнае значэнне. Таму сэнс фразеалагізма — гэта не сума значэнняў яго кампанентаў, як у свабодным словазлучэнні, а зусім іншае значэнне.

### ПРАЦА З ПАДРУЧНІКАМ

(Свабодныя і ўстойлівыя словазлучэнні — схема на с. 81.)

**Настаўнік:** Таксама дапаможа вам адрозніць фразеалагізм ад свабоднага словазлучэння вось такая картка. (Вучні атрымліваюць карткі „Розніца паміж фразеалагізмам і свабодным словазлучэннем".)

### ПРАЦА З КАРТКАЙ-ПРАВІЛАМ

Розніца паміж фразеалагізмам і свабодным словазлучэннем

| **Прыкметы словазлучэнняў** | **Прыкметы фразеалагізмаў** |
|---|---|
| 1. Кожнае слова захоўвае сваё лексічнае значэнне. | 1. Словы страчваюць сваю сэнсавую самастойнасць, маюць непадзельнае цэласнае значэнне. |
| 2. Любое са слоў можна замяніць другімі словамі. | 2. У іх складзе, як правіла, нельга замяняць адно слова іншым. |
| 3. Ствараюцца ў працэсе маўлення, не патрабуюць запамінання. | 3. Не ўтвараюцца ў час маўлення, не ствараюцца кожны раз нанова, а выкарыстоўваюцца як ужо гатовыя моўныя адзінкі. |
| 4. Кожнае слова выступае ў ролі пэўнага члена сказа. | 4. Выступаюць у ролі аднаго члена сказа. |
| 5. Да словазлучэнняў нельга падабраць сінонімы і антонімы. | 5. Да фразеалагізмаў можна падабраць сінонімы, антонімы. |

### ПРАЦА СА СЛОЎНІКАМ

**Настаўнік:** Фразеалагізмы складаюць адну з істотных і прыкметных частак моўнага багацця беларусаў.

Навука пра ўстойлівыя спалучэнні слоў (фразеалагізмы) называецца фразеалогіяй.

Таксама фразеалогіяй называюць сукупнасць усіх фразеалагізмаў мовы. Напрыклад, фразеалогія беларускай мовы.

Фразеалагізмы падаюцца ў спецыяльных даведніках — фразеалагічных слоўніках. Большасць фразеалагізмаў мае адно значэнне, але ёсць і такія, што маюць два, тры значэнні і больш, г.зн. з'яўляюцца мнагазначнымі. Пагартайце старонкі слоўніка, знайдзіце такія фразеалагізмы.

### IV. Замацаванне новага матэрыялу

Праца з практыкаваннямі падручніка:

практ. 2, с. 82 (спалучыць стрэлкамі фразеалагізм з адпаведным значэннем);

практ. 3, с. 82 (знайсці фразеалагізмы ў сказах, растлумачыць значэнне);

практ. 5, с. 83 (скласці сказы з пададзенымі фразеалагізмамі);

практ. 6, с. 83 (падабраць да рысункаў адпаведныя фразеалагізмы);

практ. 9, с. 84 (вызначыць сінтаксічную ролю фразеалагізма ў сказе).

### V. Тлумачэнне дамашняга задання

Практ. 10, 11, 13, с. 84.

### VI. Падвядзенне вынікаў урока і ацэнка працы вучняў

### VI. Рэфлексія

**Настаўнік:** Адкажыце, калі ласка, фразеалагізмам з рада прапанаваных (кожны вучань атрымлівае 2 каляровыя карткі) на такія пытанні:

*Як вы працавалі сёння на ўроку?*

Чырвоная картка: 1) з аганьком; 2) абы з рук; 3) з душой; 4) цераз пень калоду; 5) закасаўшы рукавы.

*Як вы зразумелі новую тэму?*

Блакітная картка: 1) светлая галава; 2) садовая галава; 3) пустая галава; 4) галава варыць; 5) дубовая галава.

**Сцэнарыі ўрокаў** II КЛАС ЛІЦЭЯ

# Тэма: ПРЫНАЗОЎНІКІ



Іна ВЕНСКО

**МЭТЫ:**

**Вучань**

- ведае, што такое прыназоўнік і як яго адрозніць ад самастойных часцін мовы;
- правільна вылучае прыназоўнік са структуры словазлучэння і сказа;
- умее ўжываць прыназоўнікі ў вусным і пісьмовым маўленні;
- развівае навыкі вуснай і пісьмовай мовы;
- адчувае любоў і цікавасць да роднай мовы.

**ТЫП УРОКА:** вывучэнне новага матэрыялу

**ФОРМА ПРАЦЫ:** калектыўная, індывідуальная

**НАВУЧАЛЬНЫЯ ДАПАМОЖНІКІ:** падручнік „Практычная беларуская граматыка", карткі з заданнямі.

**ХОД УРОКА**

**I. Арганізацыйны момант**

Стварэнне зычлівай працоўнай атмасферы.

**II. Праверка дамашняга задання**

**II. Вывучэнне новага матэрыялу**

**Н а с т а ў н і к:** Давайце прыгадаем, якія самастойныя часціны мовы вы ўжо ведаеце? Чаму яны называюцца самастойнымі часцінамі мовы? (Адказы вучняў)

Сёння наш урок будзе прысвечаны такой службовай часціне мовы, як прыназоўнік.

**Фармуліроўка тэмы і задач урока**

**Н а с т а ў н і к:** Прыназоўнік — гэта службовая часціна мовы, якая выражае адносіны паміж назоўнікам (або займеннікам) ва ўскосным склоне і іншымі словамі ў словазлучэнні ці сказе. Напрыклад, у сказе (запісаны на дошцы) *Каля бярозак беланогіх рабіны стройныя стаяць* пры дапамозе прыназоўніка **каля** выражаюцца адносіны паміж назоўнікам *бярозкі* ў Р. скл. і дзеясловам *стаяць*.

Значэнне прыназоўнікаў выразна выяўляецца толькі ў кантэксце, дзе яны выражаюць розныя адносіны.

**Праца з правілам**

(Праца з табліцай „Семантычныя адносіны прыназоўнікаў" у падручніку на с. 172.)

**Настаўнік:** Паводле сваёй будовы прыназоўнікі могуць быць простыя, складаныя і састаўныя. Паводле паходжання прыназоўнікі падзяляюцца на вытворныя і невытворныя.

(Праца з табліцай „Падзел прыназоўнікаў" у падручніку на с. 172.)

**Настаўнік:** Ужыванне прыназоўнікаў у беларускай мове мае свае асаблівасці. Так, некаторыя вытворныя прыназоўнікі могуць быць аманімічнымі з адпаведнымі самастойнымі словамі, ад якіх гэтыя прыназоўнікі ўтварыліся. І вызначыць гэта можна толькі ў кантэксце, кіруючыся тым, што самастойныя часціны мовы з'яўляюцца членамі сказа, а прыназоўнікі — не. Давайце разгледзім два прыклады.

***Паабапал** стаялі будынкі**.** **Паабапал** Нёмана пацягнуўся луг.*

(Настаўнік і вучні разбіраюць сказы: вызначаюць часціну мовы і сінтаксічную ролю выдзеленага слова.)

## IV. Замацаванне новых ведаў

**Праца з практыкаваннямі падручніка**

практ. 1, с. 173 (вызначыць разрад прыназоўнікаў паводле паходжання і будовы);

практ. 2, с. 173 (вызначыць адносіны прыназоўнікава-іменных словазлучэнняў);

практ. 3, с. 174; практ. 5 с. 175; практ. 13 с. 176 (уставіць патрэбныя па сэнсе прыназоўнікі);

**Праца з заданнем на картцы**

1. Складзіце сказы, каб словы побач, вакол спачатку ўжываліся ў ролі самастойнай часціны мовы, а потым — у ролі прыназоўніка.
2. Перакладзіце сказы з польскай мовы на беларускую.

*Lubię spędzać czas nad jeziorem.*

*Kasia wróci do pracy za miesiąc.*

*Spotkajmy się po zajęciach i pójdziemy do kina.*

*Pociąg odjeżdża za godzinę.*

*Kuba stał na przystanku i czekał na autobus.*

*Opowiedz nam o swojej podróży.*

**Гульня „Чацвёрты лішні"**

1. у, праз, над, уздоўж (вытворны)
2. па-над, з-за, па, з-пад (просты)
3. на чале, у адпаведнасці з, на працягу, у выпадку (састаўны з 4 слоў).

**V. Падагульненне вывучанага. Рэфлексія**

- Што вы ведаеце пра прыназоўнікі?
- Што для вас было самым цікавым на ўроку?
- Якое заданне было самым цяжкім?

**VI. Ацэнка працы вучняў на ўроку**

**VII. Тлумачэнне дамашняга задання**

Тэорыя і практ. 8, 9 с. 175; практ. 12, с. 176; практ. 15, с. 177.

III КЛАС ЛІЦЭЯ **Сцэнарыі ўрокаў**

# Тэма: „АБЛАВА”: ТРАГЕДЫЯ ХВЕДАРА РОЎБЫ І ЯГО СЯМ'І



Іна ВЕНСКО

**МЭТЫ ЎРОКА:**

- данесці глыбокі філасофскі змест твора;
- паказаць жорсткую палітыку сталінскага рэжыму ў адносінах да сялян на прыкладзе героя аповесці;
- прасачыць, як адбываецца разрыў самых моцных (кроўных) сувязяў;
- дапамагчы вызначыць ідэйную накіраванасць твора;
- развіваць у вучняў уменні выразна чытаць, пераказваць тэкст, карыстацца фактамі з тэксту, аргументаваць, характарызаваць вобразы герояў і іх учынкі;
- развіваць мысленчыя здольнасці;
- садзейнічаць выхаванню агульначалавечых ідэалаў.

**ТЫП УРОКА:** урок-разважанне

**ФОРМА ПРАЦЫ:** індывідуальная і калектыўная праца

**НАВУЧАЛЬНЫЯ ДАПАМОЖНІКІ:** хрэстаматыя „Беларуская літаратура”

**ЭПІГРАФ:** „Напэўна, у адных умовах раскрываецца адна частка характару, а ў іншых — іншая. Таму ў кожнага часу свае героі”. В. Быкаў

**ХОД УРОКА**

**I. Арганізацыйны момант**

Стварэнне зычлівай атмасферы на ўроку.

**II. Аналіз твора**

**Н а с т а ў н і к:** Часцей за ўсё Васіля Быкава ўспрымаюць як пісьменніка, які звяртаўся ў сваіх творах да ваеннай тэмы. Аднак літаратурная спадчына пісьменніка не абмяжоўваецца ваеннай тэматыкай. Так, тэме калектывізацыі, сталіншчыны і трагедыі нашага народа ў эпоху „вялікага пералому” прысвячаецца аповесць „Аблава”. Гэты твор знакавы, філасофскі, папераджальны. І сёння мы працягнем знаёмства з ім. (Вучні ўжо прачыталі аповесць.)

Давайце ўзгадаем змест твора, а таксама абмяркуем некаторыя пытанні.

**План працы са зместам твора:**

1. Ужо з першых старонак аповесці „Аблава” аўтар знаёміць нас з галоўным героем — Хведарам Роўбам. Знайдзце яго апісанне ў тэксце і зачытайце. (с. 225)
2. „Божа літасцівы, чаму я такі нешчаслівы? — звыкла падумалася Хведару, як думалася бадай штодня ўсе пяць гадоў ягоных пакут. — Жывуць людзі, спа-

койна ходзяць па гэтай зямельцы, і, мусіць, ніхто не ведае, як без яе. А я...” Працягніце. Што вы можаце сказаць пра пакутніцкі і доўгі шлях героя. Адкуль і куды ён ідзе? (с. 227, 228)

3. Зачытайце фрагменты тэксту, прысвечаныя сустрэчы Хведара з яго некалі пакінутай сядзібай. Якія пачуцці напаўняюць яго душу? (с. 227-230)
4. Што вы можаце сказаць пра сям'ю Роўбы? (с. 227, 231, 232)

**Настаўнік:** Канец 1920-х гадоў быў акрэслены Сталіным як час „вялікага пералому”. Гэта быў перыяд калектывізацыі — аб'яднання дробных сялянскіх гаспадарак у калектыўныя. Натуральна, вельмі хутка гэты працэс набыў прымусовы характар, бо далёка не кожны селянін (працавіты і дбайны гаспадар) хацеў такіх змен. У выніку — рэпрэсіі, раскулачванне „ворагаў народа”. „Распадаліся сем'і, нішчылася людская роднасць, спрадвечная вясковая крэўнасць...” (В. Быкаў)

5. Чаму раскулачылі Хведара Роўбу?
6. Як бы вы апісалі Хведара Роўбу як гаспадара, селяніна? Можаце падмацаваць свае адказы тэкстам. (с. 227, 228, 231)
7. Давайце засяродзімся на вобразе Міколы — сына старога Роўбы. Што вы можаце расказаць пра яго? (с. 233, 234)
8. Чым заканчваецца твор? (Можна зачытаць сцэну аблавы на Хведара, якую ўзначальвае яго родны сын Міколка — с. 234-239)

**Настаўнік:** Васіль Быкаў — выдатны псіхолаг. І глыбокае пранікненне ў псіхалогію чалавека, даследаванне вытокаў і матываў учынкаў герояў — адна з асаблівасцей творчасці пісьменніка.

9. Паразважайце, чаму так сталася, што некалі чулы да ўсяго жывога хлопчык Міколка, які ахвотна дапамагаў сям'і на гаспадарцы, выступае цяпер заклятым ворагам роднага бацькі. Што стала прычынай разрыву кроўных — самых моцных сувязяў паміж людзьмі і пакаленнямі?
10. Якая тэма і ідэя твора?

**III. Падагульненне і рэфлексія**

**Настаўнік:** Васіль Быкаў здолеў дасягнуць максімальнага ўздзеяння на чытача тым, што паказаў вышэйшую ступень чалавечай азвярэласці — паляванне сына на бацьку. Зместам твора пісьменнік паказвае, што чалавек становіцца лютым нелюдзем, калі настае нялюдскі час, калі бездухоўнасць узводзіцца ў ранг дзяржаўнай палітыкі.

***(Зварот да эпіграфа ўрока)***

Гады сталінізму — жорсткі і трагічны час для працавітага селяніна, які ўсяго сябе аддаваў зямлі, ведаў яе, як ніхто іншы. (Гэта мы бачым на прыкладзе Хведара Роўбы.)

Аднак гэта быў зорны час для гультаёў, няўклюдных і няздатных на годнае і самавітае жыццё. А каб панаванне іх было поўнае, яны пачыналі з даносаў і выжывання тых, хто ім замінаў. (Напрыклад, Зыркаш, які напісаў скаргу на Роўбу за малатарню; Зміцер Цыпрукоў — самы няўклюдны гаспадар, у якога некалі здохла кабыла ад бяскорміцы, з'ела нават страху за зіму і не хапіла; не ўмеў плесці лапцей; не аддаваў пазычаныя Хведарам грошы, а калі пачалося раскулачван-

не, то якраз ён прапанаваў раскулачыць старога Роўбу; а цяпер ён брыгадзір калгаса і таксама палюе на яго.)

Як бачым, злачынная ўлада набірала сабе на службу такіх жа злачынцаў, нелюдзяў.

У аповесці „Аблава" асуджаецца бяздумная адданасць уладзе, гатоўнасць выканаць любое яе рашэнне. Гісторыя жахлівай здрады Міколкі папярэджвае нас пра нечалавечнасць, звярынасць дыктатуры, сталіншчыны, якая асабліва небяспечная для маладых людзей: маладзёнаў прасцей перайначыць, справакаваць, зламаць.

Аднак Васіль Быкаў настойлівы ў сваім перакананні, што той здрадзе былі не толькі знешнія прычыны. Паводле аўтара, нічога выпадковага не бывае. І нават, апынуўшыся ў сітуацыі мацнейшай за чалавека, у чалавека застаецца права, якое не зможа адняць ніхто і нішто, — гэта чалавечнасць, быць чалавекам. Ці згоды вы з гэтым?

***(Адказы вучняў)***

У сучасным грамадстве паступова страчваюцца такія спрадвечныя агульначалавечыя якасці, як дабрыня, чалавечнасць, сумленнасць. Таму вельмі важна не толькі гаварыць пра іх, але і актыўна ўкладаць у наш штодзённы быт, працу, учынкі.

**IV. Ацэнка працы вучняў**

**IV. Дамашняе заданне**

Прыдумаць і напісаць сваю канцоўку твора, засяродзіўшыся на тым, якім мог бы быць лёс Хведара Роўбы і яго сына Міколкі?

**Сцэнарыі ўрокаў**

# ПАЗАКЛАСНАЯ ПРАЦА

## Тэма: БЕЛАРУСКІ БЕЛАСТОК



Іна ВЕНСКО

**МЭТЫ ЎРОКА:**

- пазнаёміць вучняў з праектам і мапай „Беларускі Беласток”;
- узбагаціць іх веды пра беларускую старонку гісторыі горада;
- развіваць камунікатыўныя здольнасці;
- садзейнічаць выхаванню патрыятызму і гонару за свой народ.

**ТЫП УРОКА:** экскурсія

Навучальныя дапаможнікі: мапа „Беларускі Беласток”, інтэрактыўная дошка ці камп'ютар, інфармацыйныя буклеты „Беларускі Беласток”.

**ХОД УРОКА**

**I. Арганізацыйны момант**

**II. Уступнае слова настаўніка**

**Настаўнік:** „Беларускі Беласток” — гэта даведнік і мапа па месцах, якія звязаны з беларускай гісторыяй і культурай, а таксама актыўнасцю беларусаў у Беластоку сёння і ў мінулым.

Стваральнік гэтага праекта — маладзён з Беларусі Аляксей Трубкін, які скончыў беларускую філалогію ва Універсітэце ў Беластоку, а цяпер працуе і жыве тут.

Паводле аўтара гэтага праекта, ужо ёсць такія мапы, як „Беларуская Варшава”, „Беларускі Кракаў”, „Беларускі Пецярбург”, „Беларуская Вільня”, „Беларуская Прага”. І яму падалося дзіўным, што няма мапы Беластока — бадай, самага беларускага горада Польшчы. Так і нарадзілася ідэя стварэння мапы „Беларускі Беласток”.

**III. Знаёмства з мапай „Беларускі Беласток”**

Настаўнік (ці сам аўтар праекта Аляксей Трубкін) прэзентуе мапу „Беларускі Беласток”, расказвае пра асоб, установы і месцы, звязаныя з беларускім жыццём у сталіцы Падляшша.

(Падрабязную інфармацыю і відэа з аўтарам праекта можна знайсці на інтэрнэт-старонцы Беларускага Радыё Рацыя — **www.racyja.com/belaruski-belastok**)

## IV. Экскурсія

Самастойна (ці з удзелам аўтара праекта) можна правесці экскурсію па „беларускім Беластоку”.




Кожны вучань падчас экскурсіі карыстаецца загадзя надрукаванымі інфармацыйнымі буклетамі, дзе змешчаны пункты запланаванага маршруту.




## V. Падагульненне і рэфлексія

# *Кантрольная праца па службовых часцінах мовы*
# (II клас ліцэя)



Ян КАРЧЭЎСКІ

**Імя і прозвішча**.................................................. **Нумар у дзённіку**.........................

**Заданні**

1. **Ад дадзеных прыслоўяў утвары іх вышэйшую і найвышэйшую ступені простым спосабам.**

   Ціха ........................................ ........................................
   Весела ........................................ ........................................
   Выразна ........................................ ........................................
   Глыбока ........................................ ........................................
   Дрэнна ........................................ ........................................
   Чыста ........................................ ........................................
   Позна ........................................ ........................................
   Звонка ........................................ ........................................

2. **Спішы, раскрываючы дужкі.**
   **Пішы разам, раздзельна або праз злучок.**

   Дзе (нідзе) падасць яшчэ голас жаваранак. Вароны з шумам падняліся (ў) верх і паляцелі (ў) бок лесу. Лес шумеў (не) як (па) новаму, больш спакойна і мірна.
   ..........................................................................................
   ..........................................................................................
   ..........................................................................................

3. **З дадзенымі словамі і словазлучэннямі складзіце сказы.**

   Затым, за тым пагоркам; утрох, у трох дамах; па-новаму, па новым раскладзе.

   ..........................................................................................
   ..........................................................................................
   ..........................................................................................
   ..........................................................................................
   ..........................................................................................

4. **Спішы. Часціцы, што ў дужках, напішы асобна, разам, або праз злучок. Дужкі апусці.**

   Гэтая дзяўчына ўмее (такі) працаваць. Захацела (ся) дзеду Талашу пагаварыць з такім чалавекам, хто разумеў (бы) яго і прыйшоў (бы) яму на дапамогу. Калі

(ж) ты пойдзеш дадому? Дзесьці (не) падалёку ў галаве калоны (не) чакана ўзнікла (не) гучная песня.

.....................................................................................................................................................
.....................................................................................................................................................
.....................................................................................................................................................
.....................................................................................................................................................
.....................................................................................................................................................

**5. Складзі сказы з дадзенымі часціцамі: хіба, што за, нават, зусім не.**

.....................................................................................................................................................
.....................................................................................................................................................
.....................................................................................................................................................
.....................................................................................................................................................
.....................................................................................................................................................

**6. Перакладзі на беларускую мову.**

Poszedłbym do kina, gdyby grano interesujący film.

.....................................................................................................................................................

Przynieś mi co bądź do jedzenia.

.....................................................................................................................................................

Spiesz się powoli.

.....................................................................................................................................................

**Дыктоўка**

.....................................................................................................................................................
.....................................................................................................................................................
.....................................................................................................................................................
.....................................................................................................................................................
.....................................................................................................................................................
.....................................................................................................................................................
.....................................................................................................................................................
.....................................................................................................................................................
.....................................................................................................................................................
.....................................................................................................................................................
.....................................................................................................................................................
.....................................................................................................................................................

# *Паўтарэнне і замацаванне ведаў па Рэнесансе і Рэфармацыі*
# (I клас ліцэя)



Ян КАРЧЭЎСКІ

- **Адкажы на пытанні, там, дзе трэба, выберы правільны адказ.**

1. **Які час абдымае эпоха Рэнесансу і Рэфармацыі ў беларускай літаратуры?**

   ...........................................................................................................................................

2. **Да якой культуры адклікаліся людзі Рэнесансу:**
   I. народнай
   II. антычнай
   III. сярэднявечнай

3. **Якія імёны ў гісторыі сусветнай культуры, навукі, мастацтва народжаны эпохай Рэнесансу?**
   I. Калумб і Шэкспір
   II. Еўфрасіння Полацкая і Кірыла Тураўскі
   III. Максім Гарэцкі і Рыгор Барадулін

4. **Дай два сінонімы да слова Рэнесанс.**

   ...........................................................................................................................................

5. **Як называлася першая канстытуцыя на беларускіх землях?**

   ...........................................................................................................................................

6. **Хто паклаў пачатак працэсу стварэння ВКЛ?**
   I. князь Вітаўт
   II. князь Міндоўг
   III. князь Рагвалод

7. **Назаві 2 прозвішчы беларускіх адраджэнцаў?**

   ...........................................................................................................................................

8. **Батлейка гэта:**
   I. лялечны тэатр
   II. музычны інструмент
   III. від вопраткі

**9. Сталіцай ВКЛ быў горад:**

I. Мінск

II. Гародня

III. Вільня

**10. Якую адукацыю атрымаў Францыск Скарына? Дзе?**

..........................................................................................................................................

**11. Назаві 4 прыкметы выданняў Скарыны.**

..........................................................................................................................................

**12. У Вільні Скарына выпусціў:**

I. Псалтыр

II. Апостал

III. Буквар

**13. У чым заключаецца сутнасць (істота) «гуманізму»?**

..........................................................................................................................................

**14. Якія з ніжэйназваных гадоў жыцця належаць Францыску Скарыне?**

I. 1480-1533

II. 1470-1555

III. 1490-1551

**15. Якім па жанры з'яўляецца твор «Песня пра зубра»?**

..........................................................................................................................................

**16. Дзе і калі М. Гусоўскім была напісана «Песня пра зубра»?**

I. у 1515 годзе падчас вучобы ў адным з заходнееўрапейскіх універсітэтаў

II. у 1522 годзе ў Рыме, куды трапіў Гусоўскі ў складзе польска-літоўскай дыпламатычнай місіі

III. пасля вяртання на радзіму — у 1522 годзе ў Кракаве

**17. З якім дзеячам звязаны горад Нясвіж?**

I. з Сымонам Будным

II. з Міколам Гусоўскім

III. з Васілём Цяпінскім

**18. Колькі было рэдакцый Статута ВКЛ?**

..........................................................................................................................................

**19. Які герб знаходзіцца на выданнях Францыска Скарыны?**

.....................................................................................................................................................................

**20. Які з пісьменнікаў належыць да лацінамоўных беларускіх паэтаў XVI стагоддзя?**

I. Сымон Будны

II. Андрэй Рымша

III. Мікола Гусоўскі

# *Зразуменне прачытанага тэксту* (гімназія)

Вядома, што галоўнай мэтай чытання з'яўляецца зразуменне тэксту. Асноўным чынам уплываюць на гэта тэхніка чытання ды разуменне вучнем паасобных слоў і словазлучэнняў. Гэта працэс даволі складаны і адбываецца ён на кожным этапе навучання. Без правільнага зразумення літаратурнага тэксту цяжка напісаць добрае сачыненне ці інтэрпрэтацыю верша, не будзе таксама без гэтага добрай дэкламацыі.



Ян КАРЧЭЎСКІ

На матуралным экзамене адно з пісьмовых заданняў датычыць менавіта зразумення чытання нелітаратурнага тэксту. Правяраюцца між іншым такія ўмеласці вучняў, як:

- пошук адпаведных інфармацый,
- акрэсліванне галоўнай думкі,
- распазнаванне значэння паасобных слоў і словазлучэнняў,
- вышукоўванне ключавых слоў,
- складанне кароткага зместу ці плана тэксту,
- вызначэнне і абгрунтаванне тэзіса тэксту.

Прапаную некалькі заданняў на разуменне вучнямі прачытанага тэксту. Яны прымеркаваныя да ўзроўню гімназіі. У кожным выпадку заданне вучням такое ж самае — прачытай тэкст і адкажы на пытанні. Рэкамендую карыстацца моўнымі слоўнікамі.

**Тэкст I**

... Але зойдзем у хату, якой яна была яшчэ не так даўно, а часам сустракаецца і зараз. Спачатку трапляем у сенцы. Яны і зараз служаць для гаспадарчых мэт. Тут вёдры, цэбры з рознай рознасцю, маслабойкі (цяпер часта сепаратар) і г.д. Дзверы насупраць вядуць у камору, дзе таксама рэчы для гаспадаркі і на паліцах розныя прыпасы. Другія дзверы вядуць у халодныя пакоі. Іх адзін ці два. Раней гаспадыня ўлетку выносіла сюды кросны, ткацкі станок, бо ў самой хаце горача. (...)

Цяпер — у хату. Выгляд яе для кожнай мясцовасці быў розны. У даўніну бывалі хаты з комінам (цяпер комінам завецца пячны дымаход), плеценым і абмазаным гліняю конусам, пад якім на жароўні ці ў свечніку гарэла лучына, а дым ішоў комінам праз столь і страху (...) Перад лаўкамі — стол. Заўсёды дужа белы, бо яго часта скрэблі нажом. Стол і лаўкі часцей за ўсё былі з тоўстых дубовых дошак. Ля той сценкі, дзе дзверы, стаялі куфры і — узімку — гаспадыніны кросны.

З упрыгожанняў былі — абразы на покуце. Бывалі сярод іх і лубачныя, але здараліся і дужа цікавыя. Ці старажытныя, ці наіўныя, уніяцкіх яшчэ часоў, дзе святыя былі ў беларускіх народных вопратках. Асаблівым поспехам карыстаўся святы Юры, які забівае дракона, і святы Мікола за сваё сялянскае паходжанне

і за тое, што (па беларускай легендзе) аднойчы ўратаваў адзіную кабылку беднага мужыка, якая заблукала ў лесе. Не даў раздзерці ваўкам і памог ажарабіцца, а пасля прывёў гаспадару. Згодна павер'ю, калі жарабятка падрасце, то на ім паедзе той, хто дасць волю народу. (...)

І, вядома ж, ручнікі. Мноства. Раней вакол абразоў і акон. Цяпер каля карцін і партрэтаў. Ручнікі ў нас на Беларусі таксама розныя, па мясцовасці, і дужа разнастайныя. Узоры іншыя, чым у суседзяў, хаця ёсць і падобныя. Галоўная розніца — менш «раслін і кветак». Арнамент часцей геаметрычны. Меней чорнага колеру.

**I. За што беларусы цэняць святога Міколу?**

.............................................................................................................................................
.............................................................................................................................................
.............................................................................................................................................

**II. Назаві чатыры гаспадарчыя прылады:**

.............................................................................................................................................

**III. Што з'яўляецца на Беларусі найбольш папулярным дэкаратыўным элементам?**

.............................................................................................................................................

**IV. Якім відам драўніны, перш за ўсё, карысталіся беларусы ў вырабе мэблі?**

.............................................................................................................................................

**V. Дапішы з тэксту антонімы да слоў:**

аднолькавыя — ......................................................

пазней — ......................................................

**Тэкст II**

... Больш гістарычных інфармацый дакладчык прадставіў наконт узнікнення невялікага пушчанскага пасёлка, які з часамператварыўся ў Гайнаўку.

— Названне Гайнаўшчына ўзнікла ад прозвішча ляснога ахоўніка Гайныма Гэйна, які ў XVIII стагоддзі пасяліўся ва ўрочышчы Скарбаслаўка, побач аднайменнай рэчкі. (...) Навуковец гаварыў таксама пра пракладку чыгункі, якая стала спалучаць Гайнаўку з суседнімі гарадамі і расказаў аб узнікненні прамысловасці ў маладой мясцовасці і пазнейшым яе развіцці.

— Яшчэ ў XIX стагоддзі асноўныя жыхары Гайнаўкі жылі побач і сённяшняй вуліцы Ліпавай (частка і з іх займалася сельскай гаспадаркай, а частка працавала ляснымі ахоўнікамі). У 1897 годзе была здадзена ў карыстанне чыгунка з Бельска-Падляшскага праз Гайнаўку ў Белавежу, — гаварыў прафесар Міхал Кандрацюк. (...)

Побач Царскага шляху, які з бельскага напрамку ішоў праз Відава, Асоўку, Гайнаўку і Буды ў Белавежу, была збудаваная цвёрдая дарога. (...)

З 1915 года на тэрыторыі сённяшняй Гайнаўкі пачынае развівацца прамысловасць. Будуецца дрэваапрацоўчае прадпрыемства, узнікаюць фабрыкі вытворчасці і спірту, і апрацоўкі драўніны з прымяненнем хімікатаў.

**I. Адкуль узялася назва Гайнаўка?**

..............................................................................................................................................

**II. Назаві чатыры мясцовасці, якія апынуліся на царскім шляху:**

..............................................................................................................................................

**III. Назаві тры віды прамысловасці, што пачалі развівацца ў Гайнаўцы з 1915 года:**

..............................................................................................................................................

**IV. Чые доследы прадстаўлены ў тэксце?**

..............................................................................................................................................

**Тэкст III**

Пляц Святога Марка з'яўляецца гістарычным цэнтрам Венецыі. Яго лічаць не толькі адным з найпрыгажэйшых у Італіі, але і на цэлым свеце. Архітэктура пляца з яго мармуровымі палацамі спалучае элементы фантазіі і рэчаіснасці.

Нягледзячы на розніцу стыляў у асобных будоўляў, усё разам стварае дасканалую гармонію. Нездарма Напалеон назваў пляц Святога Марка «найпрыгажэйшым салонам свету».

У XIII ст. пляц быў вымашчаны цэглай у прыгожыя ўзоры. Нездарма: тут быў цэнтр венецыянскага жыцця амаль ад пачатку існавання горада. Тут адбываліся важнейшыя палітычныя і рэлігійныя падзеі. Пляц стаў арэнай дзяржаўных, касцельных і народных урачыстасцей. Тут людзі пратэставалі супраць дэспатычных урадаў, але тут жа адбываўся шматмесячны венецыянскі карнавал, розныя турніры і народныя фэсты.

На пляцы Святога Марка ёсць крамы з мастацкімі вырабамі і галерэі.

У славутых кавярнях сустракаюцца вядомыя мастакі, пісьменнікі, акцёры. Часамі на пляцы адбываюцца канцэрты — акустыка тут амаль такая, як у опернай зале.

Не так даўно на пляцы Святога Марка, у галерэі дэль Кавэліна, была наладжана выстаўка мастацкіх прац нашага вядомага мастака з Валіл Лёніка Тарасэвіча.

**I. Чым цікавая архітэктура пляца Святога Марка?**

..............................................................................................................................................

..............................................................................................................................................

**II. Назаві чатыры віды мерапрыемстваў, якія адбываліся і адбываюцца на пляцы**

.......................................................................................................................................................

.......................................................................................................................................................

.......................................................................................................................................................

.......................................................................................................................................................

**III. Які беларускі акцэнт звязаны з пляцам Святога Марка?**

.......................................................................................................................................................

.......................................................................................................................................................

ПРАПАНОВА ПАГУЛЯЦЬ У ТЭАТР

# ХТО СКАЗАЎ «МРАЎ»?

**Publikujemy za zgodą i dzięki uprzejmości Wydawnictwa Didasko.**

**Зофія Вуйцік, пераклад на беларускую мову Аліны ВАЎРАНЮК**

Гэта прапанова сцэнарыя. Можаце мяняць колькасць «звяроў», якія ў ім выступаюць. Можаце выкарыстаць музыку, каб дзеці маглі спяваць тэксты, якія рыфмуюцца. Дзеці таксама могуць іх проста гаварыць або рэпаваць.



**Кошка** Мраў! *Яна адна на сцэне, мяўкае і хутка хаваецца.*

*Выбягаюць Сабачаняткі*

**Сабачка 1** Ці вы чулі?

**Сабачка 2** Я чуў.

**Сабачка 1** Ці вы бачылі?

**Сабачка 3** Я не бачыў.

**Сабачка 1** Я таксама не.

*Шукаюць Кошку.*

**Кошка** Мраў!

**Сабачка 2** Хто гэта?

**Сабачка 3** Ох ты, зараз цябе знойдзем!

**Сабачка 2** А можа лепш пачакаць мамы?

**Сабачка 1** Яна напэўна зловіць яго!

**Сабачка 3** Мама дзяўчына, а мы хлопцы. Дамо рады!

**Сабачка 2** Добра! Пайшлі!

*Усе звяры або толькі Сабачкі*

Файны і вясёлы маем панадворак.
Кветак шмат расце тут. Хіба больш за сорак!
А на панадворку хлеў, канюшня, хата,
Добра нам жывецца, бо ўсяго багата.
Куд-кудах, ква, ква, ква.
Мы сабакі, ты і я.
Тут заўжды цікава, гоман, крык наўкола,
Ходзяць гусі, качкі і курэй крамола.
Певень кожны ранак песні нам спявае,
Гэта наш будзільнік, сваю справу знае.
Куд-кудах, ква, ква, ква.
Мы сабакі, ты і я.

*Сабачкі сядаюць і слухаюць.*

**Певень** Кожнай куры трэба ведаць, неўзабаве будзем снедаць!

**Кура 1** Ох, які разумны гэты наш Певень!

**Кура 2** Вершам гаворыць!

**Певень** Знайшоў для вас зярняткі. Запрашаю кураняткі!

**Кура 3** Які ён добры.

**Кура 1** І як малымі займаецца.

**Кура 3** І як не кахаць такога мужа...

**Куранятка 1** Якія смачныя!

**Куранятка 2** Якія добрыя!

**Куранятка 3** Якія пахучыя!

**Кураняткі 1, 2, 3** Дзякуем татуля!

**Певень** Увага! Увага! Куры, кураняткі, бачу гаспадыня нясе нам зярняткі!

*Куры, Кураняткі і певень выбягаюць.*

**Кошка** Мраў!

**Сабачка 1** Вы чулі?

**Сабачка 2** Вядома!

**Сабачка 3** Злавілі яго!

*Бягуць за Пеўнем, брэшуць.*

**Сабачка 1** Чаму нас палохаеш?

**Сабачка 2** Я табе пакажу «мраў», я табе пакажу «мраў»!

**Певень** А хто ж гэта такі? А, малыя шчанюкі.

**Сабачка 3** Чаму ўвесь час гаворыш «мраў»?

**Сабачка 2** Чаму нас палохаеш?

**Певень** Я ніколі не мурлыкаў, толькі рана кукарэкаў!

**Кура 1** Які ён адважны!

**Кура 2** Хацеў мурлыкаць!

**Кура 3** Хіба зараз самлею!

**Кура 1** Мастак — не Певень!

**Кура 3** Дзеці, захапляйцеся бацькам...

**Кураняткі 1, 2, 3** Оооооооох!

**Сабачка 1** Скажы нам: — Як ты крычыш?

**Сабачка 2** Толькі хутка!

**Сабачка 3** Не губляй часу!

**Певень** Вы не мусіце чакаць, зараз буду вам спяваць!

*Певень кукарэкае.*

**Сабачка 1** Просім прабачэння.

**Сабачка 2** Шукаем далей.

**Сабачка 3** Да пабачэння.

*Куры, Кураняткі і Певень выходзяць.*

**Кошка** Мраў!

**Сабачка 3** Я зноў гэта пачуў.

**Сабачка 1** Адтуль...

**Сабачка 2** Ціхаааа. Ідзем...

*Спяваюць усе звяры або толькі Мышкі*

З нары нехта выглядае.

Вочкі, носік, вушкі мае,

Доўгі хвосцік, вусы, лапкі.

Гэта хіба мышаняткі.

Мышы, мышкі, вы пачулі?

Не пачулі, бо заснулі.

Мышкі ў кутку сядзяць.
На нас нават не глядзяць.
Калі людзі бачаць іх,
Падымаюць віск і крык.
    Мышы, мышкі, вы пачулі?
    Не пачулі, бо заснулі.

**Мышка 1** Ці мы ўжо пад падлогаю?

**Мышка 2** Здаецца так...

**Мышка 3** Цяпер трэба знайсці дзірку...

**Мышка 2** О, яна тут, пайшлі...

**Мышка 1** Неяк дзіўна тут...

**Мышка 3** Мне таксама...

**Мышка 2** Але тут лягчэй знайсці ежу.

**Мышка 1** А чаго шукаем?

**Мышка 3** Мяшкоў.

**Мышка 2** Вялікіх мяшкоў.

**Сабачка 1** Злавіў! *Ловіць Мышку 1*

**Сабачка 2** А ты хто? *Ловіць Мышку 2*

**Сабачка 3** Ты пачвара! *Ловіць Мышку 3*

**Мышка 1** Адпусціце!

**Мышка 2** Мы звычайныя мышкі.

**Сабачка 1** Гэта ты гаварыла «мраў»?

**Мышка 1** А нехта так гаварыў?

**Сабачка 2** Гаварыў...

**Мышка 2** Даўно?

**Сабачка 3** Толькі што.

**Мышка 3** Піііііі... Уцякайма! Піііііі...

*Вырываюцца, уцякаюць.*

**Сабачка 1** Хіба гэта не яны...

**Сабачка 2** Хіба не.

**Сабачка 3** Баяліся больш за нас.

*На сцэну выбягаюць Матылькі, танцуюць пад музыку. Сабачкі глядзяць на іх.*

**Кошка** Мраў!

**Сабачка 1** Гляньце, браты, нарэшце мы іх злавілі!

**Сабачка 2** Цяпер мы з імі разбярэмся!

**Сабачка 3** Вы паскуды!

**Сабачка 1** Чаму з нас насміхаецеся?

**Сабачка 2** Чаму нам дакучаеце?

**Сабачка 3** Чаму ўвесь час мурлыкаеце?

**Матыль 1** Ну і дзівакі!

**Матыль 2** Думаюць, што матылі мурлыкаюць!

**Матыль 1** Дурныя!

**Сабачка 1** Калі гэта не вы, дык можа ведаеце, хто так мурлыча?

**Матыль 1** Гэта не мы.

**Матыль 2** Мы так не гуляем.

**Матыль 1** Нам трэба ляцець на луг.

**Матыль 2** А не губляць час з малышамі.

*Адлятаюць.*

**Сабачка 2** Пачакайце!

**Сабачка 3** Паляцелі...

**Сабачка 1** Нічога, шукаем далей.

**Кошка** Мраў!

**Сабачка 3** Зноў! Зараз яго злаўлю!

**Сабачка 2** Глядзіце! Вунь там!

**Сабачка 1** Аааа! Злавілі!

*На сцэну скачуць Жабы.*

А мы вясёлыя Жабкі.
У нас зялёныя шапкі.
Жывем сабе каля рэчкі,
Нам непатрэбныя спрэчкі.

Мы тут супольна гуляем,
У ваду раз-пораз ныраем.
Хто хоча жыць над вадою,
Мы возьмем яго з сабою.

**Сабачка 1** Слухайце, Жабы, мы ўсё ведаем.

**Жаба 1** Што вы ведаеце?

**Сабачка 2** Ведаем, што ходзіце за намі.

**Сабачка 3** Ходзіце і мурлыкаеце.

**Жаба 2** Але ж мы Жабы, а Жабы не мурлыкаюць.

**Жаба 1** Жабы кумкаюць.

**Жаба 2** Вы ж чулі...

**Сабачка 1** Дык можа гэта рыбы?

**Сабачка 2** Або ракі?

**Жабы 1, 2** Рыбы і ракі голасу не маюць!

*Жабы выбягаюць.*

**Сабачкі 1, 2, 3** Нам не шанцуе. Мы нічога не ўмеем.

**Сабачка 1** Ніколі не даведаемся, хто гаворыць «мраў».

**Сабачка 2** Лепш вярнуцца да мамы.

**Сабачка 3** Вяртаемся. Але ж кудою?

**Сабачка 1** Не ведаю...

**Сабачка 2** Мы паблудзілі...

**Кошка** Мраў, мраў, мраў... Я ў гэтым вінавата. Гэта я вадзіла вас за нос.

**Сабачка 1** Гэта ты?

**Сабачка 2** А ты хто?

**Кошка** Я кот, а ўласна кажучы кошка, сяброўка вашай мамы. Хацела з вамі крыху пагуляць.

**Сабачка 3** Нічога сабе гульня...

**Сабачка 2** Я ўжо ледзь не плакаў...

**Сабачка 1** І ножкі так баляць...

**Кошка** Але колькі вы месцаў наведалі! І шмат пазналі, і шмат чаму навучыліся...

**Сабачка 3** Гэта так, файна было.

**Сабачка 2** Пагуляем так яшчэ?

**Кошка** Ахвотна, але цяпер нам трэба вяртацца да мамы.

*Усе звяры*

Нашыя сабачкі вярнуліся да мамы,

Шмат чаго было, вы глядзелі самі,

Цяпер пара канчаць, малым сабачкам трэба спаць.

# Змест

**Рэдакцыйная калегія:** Аліна Ваўранюк,
Яланта Грыгарук,
Ян Карчэўскі,
Яўгенія Таранта

**Карэктура:** Віталь Луба
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі

**Выдавец:** Аб'яднанне ў карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА

**Друк:** Intropack Jerzy Iwaniuk

Zrealizowano dzięki dotacji
Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji